Свабода, роўнасьць, салідарнасьць

# ГРАМАДА

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТАЎ

№1

Ліпень 1991 г.

Заснавана ў маі 1917 г., адноўлена ў ліпені 1991 г.

Кошт 50 кап.



## ЦІ БУДЗЕМ МЫ НЕЗАЛЕЖНЫМІ?

## ПАЖАДАННЕ Ў ДАРОГУ

Газета БСДГ „Грамада" робіць першы крок да свайго чытача. І мы добра ўсведамляем, што яго, гэтага чытача, сёння ўжо нельга здзівіць ніякай новай газетай. І ўсё ж „Грамада" пачынае паход па заваяванню сваіх прыхільнікаў у беларускай супольнасці, якая сёння знаходзіцца ў стане глыбокага крызісу, ідэйна размежавана, перамешана і небяспечна расколата. Наша газета становіцца ў вір палітычнага жыцця Рэспублікі Беларусь, каб паспрабаваць аддэнтраваць яго вакол адзінай вечнай ідэі – ідэі лёсу народа, яго праблем сённяшніх і будучых. „Грамада" сілаю інтэлекту БСДГ пачынае аналіз прычын трагічнага адхілення траекторыі гістарычнага развіцця нашай краіны ад лініі агульначалавечай гісторыі. Для нас найважнейшым з'яўляецца высвятленне прычын і сутнасці ўласна беларускай нацыянальнай трагедыі, якія паставілі наш народ на мяжу этнакультурнага і фізічнага вымірання. Наша задача глыбока ва ўсім разабрацца, дайсці да першапрычын сённяшняга бядотнага стану, прааналізаваць іх, зрабіць разумныя высновы, а самае галоўнае – прапанаваць свой варыянт выхаду на шлях усеагульнай згоды і кансалідацыі дзеля выжывання нас саміх і нашых нашчадкаў.

Трагічныя падзеі вакол нас, кроў Тбілісі, Карабаха, Баку, Сумгаіта, Вільні і Рыгі, недвухсэнсоўна нагадваюць нам, што жыццё чалавека ў СССР каштуе не даражэй за адну сапёрную рыдлёўку, адну аўтаматную кулю. І гэтага „тавару" назапашана з ліхвой, хопіць на кожнага. Беларусь жа – не на бязлюдным востраве і ад аналагічных падзей не застрахавана. Задача нас усіх не даводзіць справу да мяжы абсурду, калі месца розуму займае аўтамат. Але ж Беларусь нашпігавана войскам, якога хутка, пасля вываду армейскіх часцей з Польшчы і Германіі, будзе яшчэ болей. І войска гэта падпарадкоўваецца не Мінску . . .

Сёння асялком стабільнасці на Беларусі становіцца сітуацыя вакол КПСС – КПБ. На ім вайстрыцца думка грамадства, якое ўжо даспела да стану і ўзроўню аналітычна ацаніць „уклад" партыі ў рэаліі нашай амаль 74-гадовай гісторыі. Прывід камунізму, у ахвяру якому ўсе мы прынеслі нашы мары, надзеі і спадзяванні, усе культурна-гістарычныя здабыткі, рэлігію, які паглынуў у нетрах ГУЛАГУ інтэлігенцыю, працалюбівых сялян, цвет нацыі беларускай і іншых насельнікаў Беларусі – ён, гэты прывід, прывёў нас, жабракоў канца XX стагоддзя, у гістарычны тупік. Найвышэйшая справядлівасць прымушае нас, аднак, амнісціраваць тых радавых наіўных камуністаў, чэсных даверлівых, адданых народу, людзей, якія сталі ахвярамі ўсяленскага камуністычнага падману. Мы ўсе, хочам ці не хочам, з'яўляемся ахвярамі гэтай наркатычнай рэлігіі палітычных фундаменталістаў XX стагоддзя, езуітаў марксізму. У сваім ідэалагічным катле яны зварылі палітычную атруту, ліхадзейнае зелле, якім абпаілі паўсвету. Вынікі гэтага палітычнага шаманства відавочныя. І важнейшы вынік у тым, што мы спаскудзілі, спаганілі перад усім светам ідэю сацыялізму, якой цяпер палохаюць дзяцей. Свет шчыра спачувае нам, і відаць, мы сапраўды вартыя-такі жалю. Цяпер стаіць перад усімі намі простая альтэрнатыва: ці жыць па-старому ці выходзіць на торны шлях, біты гасцінец сусветнай цывілізацыі. Гаворачы пра ўсё гэта, не будзем строіць з сябе вялікіх разумнікаў. „Паразумнічалі", здаецца, годзе. Таму нам трэба ўсім памалу, як таму хвораму, пачынаць „лячыцца" агульнавядомымі і апрабаванымі „лекамі" цывілізаваных народаў. Для Беларусі гэта тры „мікстуры": суверэнізацыя, прыватызацыя і дэмакратызацыя. Толькі суверэнная Рэспубліка можа стаць гаспадыняй свайго лёсу. Толькі гаспадар, уласнік на зямлі і на вытворчасці, у навуцы і культуры, пачне плённа працаваць і запыніць усесаюзны крадзёж народнай маёмасці і развал культуры. Толькі парламенцкая дэмакратыя, шматпартыйнасць дадуць народу сапраўды механізм для развіцця нармальнага грамадска-палітычнага жыцця. Для ўсяго гэтага патрэбна нацыянальная згода. І мы павінны, абавязаны прыйсці да яе насуперак усім амбіцыям і падазрэнням, усім ўзаемным немалым крыўдам. Давайце вучыцца гаварыць, прызнаваць нашы агульныя і асабістыя памылкі. Паспрабуйма ў чымсьці саступіць адзін аднаму. Беларусы – гэта яшчэ вельмі маладая нацыя. Наша праўда жыцця ўсё яшчэ ў будучыні, якая пачынаецца сёння. Дык возьмемся ж за рукі, сябры, спадары, таварышы, панове! Утворым „Грамаду", з якой мы пойдзем па шляху нашага Адраджэння! З Богам! З добрым сэрцам! З газетай „Грамада"!

Міхась ТКАЧОЎ,
старшыня Цэнтральнай Рады БСДГ.

# Хроніка

11 траўня 1991 г. адбылося трэцяе пленарнае пасяджэньне Цэнтральнай Рады Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады.

На пасяджэньні разгледжаны пытаньні: аб адносінах да праекту Дагавору аб Саюзе Суверэнных Рэспублік і Заявы „9+1"; аб утварэньні Выбарчай камісіі БСДГ; аб утварэньні Праграмнай камісіі БСДГ; аб утварэньні камісіі для падрыхтоўкі нарматыўных дакументаў партыі; аб структуры, штатах і фінансах газеты „Грамада"; аб удзеле ў перапахваньні Івана Луцкевіча.

Па абмеркаваных пытаньнях прынятыя заява і пастановы.

Апроч таго, на пленарным пасяджэньні былі зарэгістраваныя новыя суполкі Грамады.

---

15 чэрвеня 1991 г. адбылося чацьвёртае пленарнае пасяджэньне Цэнтральнай Рады Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады.

На пасяджэньні разгледжаны пытаньні: аб структуры і штатах Выканаўчага Камітэта Цэнтральнай Рады БСДГ; аб зацьвярджэньні сімволікі і пячаткі Грамады; аб падрыхтоўцы да 100-годзьдзя з дня нараджэньня Аркадзя Смоліча.

Сябрамі Выканаўчага Камітэта ЦР БСДГ абраны Анатоль ВЯРЦІНСКІі Анатоль ГУРЫНОВІЧ.

Па абмеркаваных пытаньнях прыняты пастановы.

На пасяджэньні былі зарэгістраваныя новыя суполкі, а таксама філіі БСДГ. Пасьведчаньне сябра партыі уручана доктару гістарычных навук, прафесару Мінскага інстытута культуры Анатолю Грыцкевічу.

## ВЫБАРЧАЯ КАМІСІЯ БСДГ

Дзеля каардынацыі дзеяньняў суполак і філіяў БСДГ на прамежкавых і ўсеагульных выбарах на трэцім пленарным пасяджэньні Цэнтральнай Рады Грамады створана Выбарчая камісія партыі ў наступным складзе: А. Трусаў (старшыня), Э. Агуновіч, М. Аксаміт, А. Вярцінскі, М. Гілевіч (Гіль), Я. Глушкевіч, В. Гурыновіч, Л. Дзягілеў, М. Крыжаноўскі, В. Малашка, М. Статкевіч, А. Турок, Л. Цімохін, Я. Цумараў, І. Чарняўскі, Э. Ялугін.

На Выбарчую камісію ўскладзены абавязак разам з суполкамі і тэрытарыяльнымі філіямі БСДГ падбіраць кандыдатуры для вылучэньня ў заканадаўчы орган улады Рэспублікі і распрацоўваць выбарчыя праграмы.

Суполкам і філіям Грамады рэкамендавана стварыць выбарчыя камісіі для вылучэньня кандыдатаў у мясцовыя органы ўлады і распрацоўкі рэгіянальных выбарчых праграм.

## ПРАГРАМНАЯ КАМІСІЯ БСДГ

Для падрыхтоўкі праекту Праграмы БСДГ на трэцім пленарным пасяджэньні Цэнтральнай Рады Грамады створана Праграмная камісія, у склад якое ўвайшлі: А. Сідарэвіч (старшыня), А. Гурыновіч, В. Какоўка (намесьнікі старшыні), Л. Аляхновіч, В. Арлоў, М. Вярынскі, Я. Глушкевіч, М. Івашкевіч, І. Каваленка, В. Казлоў, І. Кірыленка, М. Крыжаноўскі, А. Лабачоў, А. Ляўковіч, В. Малашка, Л. Міроненка, У. Наўмовіч, М. Патрэба, М. Статкевіч, М. Хадасевіч, Я. Цумараў, В. Ярашук.

Для распрацоўкі паасобных разьдзелаў Праграмы створаны падкамісіі, у склад якх апроч пераліченых асоб уключаны сябры БСДГ А. Асіповіч, М. Ахрымук, А. Белачкін, А. Белы, С. Валяваты, Г. Гацкевіч, В. Грыцук, Л. Дзейка, А. Дзікевіч, Л. Жураўскі, М. Каралькоў, В. Карэйва, Т. Картавік, І. Катляр, А. Кісялевіч, А. Козыр, У. Конан, У. Крук, Г. Крупскі, Я. Кулін, П. Кураленка, Я. Кухта, У. Лапцэвіч, С. Леўшуноў, В. Ліпкоў, Р. Лобаў, А. Максакаў, Я. Міляшкевіч, І. Міско, І. Місуна, У. Падольскі, І. Палубятка, В. Пашук, Э. Пінчук, Ф. Рашчык, Б. Родзіч, І. Русецкі, Зьм.Санько, І. Сьцепановіч, М. Сьцепасюк, С. Тарасаў, В. Трафімовіч, І. Умрэйка, І. Ушацкая, С. Фядзееў, М. Харламаў, В. Шадыра, Г. Штыхаў.

## КАМІСІЯ ДЛЯ ПАДРЫХТОЎКІ НАРМАТЫЎНЫХ ДАКУМЕНТАЎ БСДГ

У сувязі з тым, што Статут БСДГ мае патрэбу ў падмацаваньні і растлумачэньні адпаведнымі нарматыўнымі дакументамі, Цэнтральная Рада Грамады на трэцім пленарным пасяджэньні вырашыла стварыць спецыяльную камісію ў складзе М. Чарняўскага (старшыня), М. Кійкі, М. Крыжаноўскага, С. Леўшунова, А. Сідарэвіча і А. Трусава.

Сябрам камісіі даручана распрацаваць праекты палажэньняў: аб партыйным бюджэце (М. Кійка), аб уліку сяброў БСДГ (М. Чарняўскі), аб кантрольных органах БСДГ (С. Леўшуноў), аб парадку правядзеньня агульнапартыйнага рэферэндуму (А. Трусаў), аб партыйных групах (фаркцыях) у прадстаўнічых і заканадаўчым органах улады (М. Крыжаноўскі), аб цэнтральным друкаваным органе БСДГ – газеце „Грамада" (А. Сідарэвіч).

Праекты гэтых дакументаў павінны быць падрыхтаваны да верасьня месяца г. г.

## ДА 100-ГОДЗЬДЗЯ АРКАДЗЯ СМОЛІЧА

У сувязі са 100-годзьдзем з дня нараджэньня выдатнага беларускага сацыялдэмакрата А. Смоліча на чацьвёртым пленарным пасяджэньні прынята спецыяльная пастанова.

Створана юбілейная камісія на чале з М. Ткачовым. Рэкамендавана правесьці з нагоды юбілею партыйныя мерапрыемствы ў Менску, Горадні і Магілёве.

# АБ АДНОСІНАХ ДА ПРАЕКТУ ДАГАВОРУ АБ САЮЗЕ СУВЕРЭННЫХ РЭСПУБЛІК І ДА ЗАЯВЫ «9+1»

## Заява Цэнтральнай Рады Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады

Цэнтральная Рада Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады, кіруючыся прынцыпамі свабоды, роўнасьці і салідарнасьці паміж народамі, прынцыпамі дэмакратыі і прыярытэту права, на сваім трэцім пленарным пасяджэньні разгледзела праект Дагавору аб Саюзе Суверэнных Рэспублік і Заяву „9 + 1".

Цэнтральная Рада БСДГ лічыць неабходным заявіць, што прынцыпы суверэнітэту і федэралізму несумяшчальныя. Таму яна адзначае тое месца ў Заяве „9 + 1", дзе гаворыцца, што новы Саюз будзе Саюзам Суверэнных Дзяржаў. Сыходзячы з гэтага, у тэксце Дагавору неабходна цьвёрда і ясна агаварыць, што кожная з цяперашніх саюзных Рэспублік зьяўляецца Суверэннаю Дзяржаваю, што яе заканадаўства мае вяршэнства на яе тэрыторыі, што, уступаючы ў Саюз, цяперашнія Рэспублікі ратыфікуюць Дагавор у адпаведнасьці з нормамі міжнароднага права. Апрача таго, у Дагаворы трэба прадугледзець, што кожная з Суверэнных Дзяржаў, якая ўступіла ў Саюз, можа выйсьці зь яго шляхам дэнансацыі гэтага Дагавору.

Спрэчным зьяўляецца палажэньне праекту Дагавору аб агульным грамадзянстве. Перш-наперш кожная з Суверэнных Дзяржаў павінна мець свой закон аб грамадзянстве, які ўлічвае спецыфіку гэтай Дзяржавы, а потым стане магчымым распрацаваць спецыяльнае міждзяржаўнае пагадньне аб правах грамадзян адной Дзяржавы на тэрыторыі другой.

Непрымальным зьяўляецца палажэньне праекту аб статусе рускай мовы ў новым Саюзе. Суверэнныя Дзяржавы самі павінны вырашаць, у якой мове яны будуць ажыццяўляць зносіны паміж сабою. Дзяржаўныя мовы Суверэнных Дзяржаў павінны гучаць у Вярхоўным Савеце Саюза, на сустрэчах вышэйшых кіраўнікоў Дзяржаў.

У праекце Дагавору адзначана, што кожная Дзяржава становіцца паўнапраўным сябрам міжнароднай супольнасьці. Гэта, па сутнасьці, паўтарэньне цяперашняй Канстытуцыі СССР, паводле якой кожная саюзная Рэспубліка мае права ўстанаўліваць дыпламатычныя і консульскія зносіны, заключаць міжнародныя дагаворы. Для таго, каб суверэнітэт стаў рэальным, трэба вярнуцца да палажэньня, скасаванага Канстытуцыяй СССР 1977 года: кожная Дзяржава мае права фарміраваць свае ўзброеныя сілы. Пры гэтым Цэнтральная Рада БСДГ лічыць, што стратэгічныя і ваенна-марскія сілы павінны заставацца ў агульным веданьні Дзяржаў. Фарміраваньне агульных узброеных сіл пажадана праводзіць на дагаворных і добраахвотных пачатках. Непасрэднае кіраўніцтва такімі сіламі ажыццяўляла б саюзнае камандаваньне, упаўнаважанае на тое ў парадку, вызначаным спецыяльным Дагаворам паміж Дзяржавамі. Разам з тым БСДГ будзе імкнуцца, каб было зьдзейсьнена палажэньне аб нейтральным і бязьядзерным статусе Беларусі, зафіксаванае ў Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР.

Гарантыяй рэальнага суверэнітэту кожнае з Дзяржаў зьяўляецца таксама перадача пад яе юрысдыкцыю так званай прамысловасьці саюзнага падпарадкаваньня. Прадпрыемствы цяперашняга Міністэрства абароннай прамысловасьці СССР першапачаткова маглі б знаходзіцца ў агульным веданьні Дзяржаў, спецыяльна ўпаўнаважанага на тое камітэта, які б распрацаваў умовы дэцэнтралізацыі і рацыянальнай канверсіі такіх прадпрыемстваў.

Нарэшце, гарантыяй суверэнітэту кожнае з Дзяржаў было б зафіксаванае ў Дагаворы палажэньня пра тое, што бюджэт Саюза Суверэнных Дзяржаў складаецца з узносаў (складак) гэтых Дзяржаў і што грамадзяне плоцяць падаткі ў бюджэт тае Дзяржавы, на тэрыторыі якой яны жывуць. Пры гэтым належыць агаварыць, што кожная Дзяржава – удзельніца Саюза мае права ўводзіць сваю грашовую сістэму.

Непарушным прынцыпам дзейнасьці новага Саюза павінна стаць каардынацыя. Каардынацыя зьнешняй і зьнешнеэканамічнай палітыкі, каардынацыя дзеяньняў органаў бясьпекі і барацьбы з злачыннасьцю, каардынацыя ў галіне абароны і касмічных дасьледаваньняў і г. д.

Цэнтральная Рада БСДГ лічыць, што прапанаваную ў праекце Дагавору мадэль двухпалатнага парламента Саюза Суверэнных Дзяржаў трэба адхіліць, бо яна пярэчыць прынцыпу роўнасьці. Выбары ў Вярхоўны Савет Саюза Суверэнных Дзяржаў лепш праводзіць на парытэтных пачатках, г. зн., на аснове роўнага прадстаўніцтва кожнае з Дзяржаў.

Цэнтральная Рада БСДГ лічыць, што вышэйшым органам новага Саюза павінна стаць Рада кіраўнікоў Суверэнных Дзяржаў. Гэтая Рада каардынуе супольную знешнюю і абаронную палітыку, разглядае пытаньні бясьпекі Саюза. Старшынююць у Радзе вышэйшыя кіраўнікі Суверэнных Дзяржаў па чарзе.

У сьвятле вышэйсказанага немэтазгодным зьяўляецца стварэньне Кабінета Міністраў Саюза Суверэнных Дзяржаў. Каардынацыю эканамічнай, фінансавай ды іншых відаў дзейнасьці Дзяржаў – удзельніц Саюза могуць ажыцьцяўляць на сваіх нарадах кіраўнікі Урадаў і адпаведныя міністры гэтых Дзяржаў.

Паколькі кожная Суверэнная Дзяржава мае сваё заканадаўства, сваю Пракуратуру, лішняю выглядае ў праекце Дагавору пасада Генеральнага пракурора Саюза Суверэнных Дзяржаў, а таксама такая установа, як Вярхоўны Суд. Для Саюза дастатковай зьяўляецца наяўнасьць Канстытуцыйнага Суда, які сочыць за выкананьнем умоў Дагавору, за захаваньнем правоў чалавека. Мэтазгодным зьяўляецца і захаваньне Вышэйшага арбітражнага Суда, які вырашае спрэчныя пытаньні ў адносінах памід дзяржаўнымі гаспадарчымі органамі краін – удзельніц Саюза.

Цэнтральная Рада БСДГ лічыць, што ў праекце Дагавору праглядваецца імкненьне сучаснага Цэнтру, які называе сябе Саюзам ССР, захаваць свае выключныя правы. У гэтым праекце імкненьне кожнае Дзяржавы да свабоды і роўнасьці амаль ня ўлічана. Зусім непрымальным зьяўляецца палажэньне, паводле якога „адносіны Саюза і рэспублік, якія не падпісалі Саюзны дагавор, падлягаюць урэгуляваньню на аснове дзейнага заканадаўства Саюза ССР". Гэта магло б прывесьці да абвастрэньня канфліктаў, да непажаданых эксцэсаў. Цэнтральная Рада БСДГ гатовая была б вітаць Заяву „9 + 1" у той частцы, дзе гаворыцца, што Латвія, Літва, Эстонія, Малдова, Грузія ды Арменія маюць права самі вырашаць пытаньне аб далучэньні да Дагавору. Аднак насьцярожвае тое, што ў гэтым пункце згадваюцца толькі „вышэйшыя кіраўнікі саюзных рэспублік" і ня ўказана, ці прызнае такое права Прэзідэнт СССР. Падругое, пазбаўленьне названых Дзяржаў статусу найбольшага спрыяньня ў іх эканамічных сувязях з астатнімі дзевяцьцю прывяло б да далейшага абмежаваньня эканамічнай прасторы, якая ўжо звузілася пасьля таго, як гандаль з краінамі Ўсходняй і Цэнтральнай Еўропы пераведзены на свабодна канверсавальную валюту.

Цэнтральная Рада БСДГ лічыць, што праект Дагавора павінен быць істотна перапрацаваны і дапоўнены. Паколькі ў Саюз уступаюць Суверэнныя Дзяржавы, Канстытуцыя Саюза Суверэнных Дзяржаў не зьяўляецца неабходнаю. Асноватворным дакументам, які канстытуюе Саюз, павінен быць толькі Дагавор. Але падпісаньне яго можа адбыцца не раней чым Суверэнныя Дзяржавы, Беларусь у прыватнасьці, прымуць свае Канстытуцыі. Толькі пасьля зацьвярджэньня новай Канстытуцыі наша Рэспубліка можа вызначыць, якія са сваіх паўнамоцтваў як суверэннай Дзяржавы яна перадасьць органам Саюза.

(...)Гэтая заява перадаецца для публікацыі ў сродкі масавай інфармацыі, а таксама сацыял-дэмакратычным партыям Суверэнных Дзяржаў (Рэспублік).

11 траўня 91 г.
г. Мінск.

Тацьцяна ПАЛЯКОВА

# ЧАЛАВЕК, НАЦЫЯ, ДЗЯРЖАВА

## Нататкі па нацыянальным пытаньні



СЁННЯ ЎЖО ЯСНА, што таталітарная імперыя, якая знаходзіцца ў стане развалу, ня здольная вырашыць ніводнай з праблем, што стаяць перад грамадствам.

Для таго, каб дасягнуць пэўнага узроўню цівілізацыі і заможнасьці, таталітарная імперыя павінна ператварыцца ў супольнасьць суверэнных дзяржаў. Разумеючы гэта, усе рэспублікі імкнуцца атрымаць рэальны суверэнітэт, але сітуацыя ў кожнай зь іх мае сваю сьпецыфіку, якая накладвае на гэтае імкненьне свой адбітак.

Нягледзячы на тое, што беларусы складаюць амаль 79 працэнтаў насельніцтва БССР, большасьць зь іх ня ведае ніякай мовы, акрамя рускай, і беларусамі сябе не адчувае. Пасьля таго, як у канцы 20-х гадоў была гвалтоўна зьнішчана амаль уся нацыянальная інтэлігенцыя, адзіным захавальнікам і носьбітам мовы і народных традыцый заставалася вёска. Але ж „дзякуючы" калгаснаму ладу, самыя словы „вясковец" і „калгасьнік", зрабіліся дзеля грамадскай сьвядомасьці сінонімам забітасьці, непаўнацэннага чалавека. Вяскоўцы, жадаючы сваім дзецям лепшай долі, з усіх сіл намагаліся адправіць іх у гарады. І вось малады хлапец ці дзяўчына прыязжае туды, дзе роднае слова ўспрымаецца з пагардаю, дзе ўсе начальнікі, вялікія і малыя, гавораць толькі паруску. Каму ж ня хочацца быць перадавым, ня горшм за іншых, і нават у начальнікі выбіцца? Вось так і вырасла ў нас амаль тры пакаленьні адарваных ад роднай мовы, ад культуры. Але да якой культуры яны далучыліся? Добра было б, калі б да рускай! Бо чалавек, успрыяўшы вялікую рускую культуру, не застаецца абыякавым да адраджэньня сваёй роднай. Сапраўдная культура не існуе без шырыні мысьленьня і пачуцьцяў. На жаль, большасьць з нашых рускамоўных беларусаў выхавана на нейкім эрзацы, на сумесі сацыялістычнага рэалізму, эстрадных сьпеваў, французскіх камедый і індыйскіх меладрам, якія надавалі гэтай мешаніне неабходны эмацыянальны элемент, бо, вядома, бясконцыя фільмы з вытворчай нарадай асаблівых эмоцый не выклікаюць.

Нацыянальны нігілізм парадзіў у рэспубліцы парадксальную палітычную сітуацыю. Большая частка беларусаў, у адрозьненьне ад іншых нацый, прыгенчанымі сябе не адчувае. Роднай мовы у нас няма? Дык і ня трэба! Мы і рускай добра абыходзімся. Дзяцей немагчыма вучыць на беларускай мове? А навошта? Нам і так нядрэння! Каб яшчэ каўбасу ды мяса ад нас не цягнулі, дык і зусім добра было б!

Дзівосны менталітэт выхавала сістэма ў савецкага чалавека. Больш за 70 гадоў ён чакае, як добры цар-бацька пакладзе яму ў рот салодкі кавалак. І хоць усе 70 гадоў гэты кавалак плыве на яго вачах у рот бюракратыі, усё ж ён працягвае спадзявацца: дасьць бог – і да мяне дойдзе чарга. Пройдзе яшчэ шмат часу, пакуль большасьць з нас усьвядоміць, што адабралі ад нас ня толькі каўбасу ды мяса, але й культуру, мову і магчымасьць самім вырашаць свой лёс.

А пакуль што склалася амаль трагічнае становішча: інтэлігенцыя робіць намаганьні, каб адрадзіць родную культуру і мову, але ж большай частцы народа яны не патрэбныя: лідэры рабочга руху заклікаюць змагацца за дэмакратычныя пераўтварэнні, але рабочых цікавіць толькі іх зарплата.

Зь якім багажом сабраліся мы ў шлях да рэальнага суверэнітэту? Зь вельмі нізкім узроўнем нацыянальнай сьвядомасьці, зь нізкім узроўнем культуры і з амаль поўнай адсутнасьцю дэмакратычных традыцый і памкненьняў.

У такіх варунках язык не паварочваецца казаць „шчасьлівага шляху", але ж ісьці трэба, бо ніякай іншай магчымасьці выйсьці з крызісу няма. І каб нам на гэтым шляху не спатыкнуцца і не аступіцца, трэба ўжо сёньня вельмі сур'ёзна і дакладна прааналізаваць становішча і надаць нашаму імкненьню да незалежнасьці й дэмакратыі найбольш разумны, найбольш цывілізаваны, найбольш адпавядаючы нашым мэтам напрамак.

Таталітарная сістэма развальваецца, і нацыянальная ідэя – гэта самая моцная і жыцьцяздольная ідэя, якая ўзьнікае на яе абломках. Яна мацнейшая за ідэю рэлігійнага, духоўнага адраджэньня, мацнейшая за ідэю дэмакратыі. Яна не патрабуе дзеля свайго засвойваньня пэўнага інтэлектуальнага ўзроўню, яна не патрабуе наяўнасьці дэмакратычных традыцый у грамадстве. Нацыянальная ідэя абапіраецца на моцнае пачуцьцё да роднай зямлі, бацькоўскага дома, матчынай мовы – таму яна вельмі моцна і хутка засвойваецца шырокімі масамі.

І гэта вельмі добра, але пры адной умове – нацыянальны рух павінен быць дэмакратычным.

Народы, якія доўгія гады знаходзіліся пад прэсам імперскага цэнтра, ня могуць адразу вызваліцца ад рабскай псіхалогіі. На жаль, у іх імкненьні да незалежнасьці прысутнічае эфект маятніка, які выяўляецца за кошт народаў, што жывуць побач, у першую чаргу – рускамоўных, якія атаясамліваюцца з суб'ектам прыгнёту. Зьдзіўляцца тут ня трэба: маятнік, які доўга знаходзіўся ў крайнім становішчы, абавязкова хісьнецца ў другі край. Чым ніжэйшая культура нацыі, чым менш дэмакратычнае грамадства, тым большым будзе хістаньне. Я лічу, што нават Балтыйскія нацыі, найбольш культурныя і цывілізаваныя, гэтага не пазьбеглі. Мы спачуваем іх барацьбе, але ж трэба і ўлічваць іх памылкі. Мне здаецца, што ў нейкі момант нацыянальны рух, як больш моцны, падмяў пад сябе дэмакратычны. Галоўнай рухаючай сілай палітычных працэсаў стала ідэя нацыянальнай незалежнасьці. А калі незалежнасьць трактуецца як пераважна нацыянальная, а не пераважна дзяржаўная, гэта ставіць іншыя нацыянальнасьці ў двухсэнсоўнае становішча. На жаль, іншамоўнаму насельніцтву не было адразу цьвёрда і паслядоўна заяўлена, што ў іх жадаюць бачыць не людзей другога гатунку, а паўнапраўных грамадзян гэтых дзяржаў, што будуць шанавацца іх чалавечыя і грамадзянскія правы. Калі б гэта было зроблена, шлях да незалежнасьці быў бы, па-першае, лягчэйшы, а, па-другое, больш гуманны ў дачыненьні да гэтых людзей, якія зьяўляюцца ахвярамі таталітарнай сістэмы і таталітарнай прапаганды.

Шмат год жылі яны на чужой зямлі, не ўсьведамляючы, што яна чужая. Усё жыцьцё яны чулі па радыё „Мой адрес не дом и не улица, мой адрес – Советский Союз". І лічылі, што гэта сьвятая праўда. Ня трэба таксама забываць, што зь дзяцінства ім укладвалі ў галовы: яны – прадстаўнікі тае нацыі, якая усіх вызваліла. І, натуральна, чакалі за гэта падзякі ад іншых народаў. І вось раптоўна яны ператварыліся ў мігрантаў і „акупантаў". У выніку многія зь іх апынуліся ў стрэсавым стане. Ці трэба было іх да гэтага даводзіць? Ці ня лепш было б, калі б міжнацыянальныя праблемы вырашаліся больш спакойна і талерантна, з павагай да асобы, яе правоў, калі б рускамоўнаму насельніцтву больш тактоўна дапамаглі пазбавіцца комплексу „ старэйшага брата"?

Але маятнік хістаецца!

Толькі пасьля шалёнага націску з Цэнтра, з гвалтам і крывёю, у Балтыі стварыліся ўмовы для сапраўднага і сяброўскага ўзаемадзеяньня нацый. Вельмі сімптаматычна, што пасьля рэферэндуму ў Эстоніі, калі Руйтэль зьвярнуўся да народа зь віншаваньнем, ён спачатку сказаў „Эстонцы, абдымаю вас!", а потым паправіўся: „Эстанозямельцы!".

Вядома, што самай вялікай небясьпекай для дэмакратыі зьяўляецца таталітарызм. Але ж гэта ня толькі таталітарызм сістэмы, але і таталітарная псіхалогія, якая існуе ў нашых галовах і робіць уплыў на ўсе нашы найлепшыя імкненьні. Вельмі лёгка мы шукаем ворагаў, вінаватых за наша цяжкое становішча. Вельмі прыстасаваліся аб'ядноўвацца не дзеля чагосьці добрага, не дзеля канструктыўнай працы, а дзеля барацьбы з кімьсці, Гэтыя рысы савецкага менталітэту ня могуць не прыўносіцца ў нацыянальны рух. Найбольш моцна, нават гвалтоўна і крывава, яны праяўляюцца ў тых рэспубліках, якія ад феадалізму адразу скокнулі ў „разьвіты сацыялізм". І гэта доказна дэманструе: чым ніжэйшай культура і дэмакратычнасьць грамадства, тым большая небясьпека таталітарнага скажэньня нацыянальнага руху.

●

Што магчыма сказаць аб нашых беларускіх умовах?

Вялікага аптымізму яны не выклікаюць. Рух да нацыянальнага адраджэньня пакуль што ня стаў усенародным. І няма надзеі, што стане такім у бліжэйшы час. Але, нягледзячы на гэта, разьвіцьцё нацыянальнай ідэі ўжо абганяе і буде абганяць разьвіцьцё дэмакратыі. Усьведамляючы глыбокі нацыянальны заняпад, у якім мы знаходзімся, я усё ж бяру сьмеласьць сьцвярджаць: ідэя дэмакратызацыі павінна быць больш прыярытэтнай, чым ідэя нацыянальнага адраджэньня. Інакш мы ніколі ня выйдзем з зачараванага кола: дзеля адраджэньня патрэбен суверэнітэт, а суверэнітэт немагчымы без адраджэньня.

Па-першае: якая існуе гарантыя, што ў нашых антыдэмакратычных умовах нацыянальны рух не набудзе антыдэмакратычных рысаў?

Вядома, беларускі народ цярплівы і талерантны. Мы нават адзіная Рэспубліка, якая практычна ня мае міжнацыянальных спрэчак. І мы павінны захаваць і ўмацаваць гэтае становішча і надалей. Але я лічу, што легкадумна было б спадзявацца, што ўсё само па сабе будзе добра дзякуючы нашай талерантнасьці. Чалавек, які ня мае сапраўднай культуры, вельмі лёгка можа хіснуцца ад нацыянальнага нігілізму да жаданьня адчуць сябе прадстаўніком галоўнай нацыі з усімі вынікаючымі з гэтага становішча прывілеямі.

Далей: ва умовах таталітарнай сістэмы нацыянальны рух ня можа лічыць сябе абароненым. Сістэме вельмі карысна падаваць нацыянальна-дэмакратычны рух як чыста нацыянальны. Адразу сыплюцца абвінавачваньні ў экстрэмізме, нацыяналізме і г. д. А калі ўзьнікне недзе міжнацыянальны канфлікт, гэта для сістэмы проста падарунак, тут ужо можна і танкі завод зіць. Найменшыя адступленьні ад дэмакратызму будуць раздзьмухвацца сістэмай да велізарных памераў. І таму, каб быць застрахаваным, нацыянальны рух павінен быць на 100 працэнтаў дэмакратычным.

І апошняе. Можа так здарыцца, што, атрымаўшы падтрымку зьверху, рух адраджэньня будзе скарыстаны кіруючай сістэмай у якасьці моднай, прыгожай упакоўкі для свайго паедзенага ржою ідэалагічнага тавару. Адзінае, што можа зрабіць партакратыя, каб захаваць хоць нейкі ўплыў на людзей, гэта пачаць паразітаваць на патрыятызме. Нездарма РКП ужо даўно ўжывае патрыятычную фразеалогію. Я не сумняваюся – калі гэта спатрэбіцца для захаваньня ўлады, дык партакраты стануць „во фрунт" пад бел-чырвона-белым сьцягам і значок з Пагоняй на грудзі начэпяць. На сярпе ды молаце сьвет клінам не сышоўся!

Можа так здарыцца, што мы будзем мець і сьцяг, і герб, і мову. І ўсё гэта будзе новай шыльдай для старой сістэмы, якая, безумоўна, ахвяруе ідэалагічнымі сімваламі, каб не ахвяраваць уладай.

На жаль, высокі ўзровень нацыянальнай сьвядомасьці не гарантуе ні заможнасьці, ні дэмакратычнага грамадства. Дастаткова зірнуць на Азербайджан альбо сярэднеазіяцкія рэспублікі. Усе на роднай мове размаўляюць, а ці далёка рушылі яны па шляху прагрэсу? Таму я баюся, што нацыянальнае адраджэньне, якое не абапіраецца на моцныя дэмакратычныя прынцыпы, можа стаць цацкай у руках пануючай алігархіі. Да таго ж, адраджэньне ў таталітарнай сістэме ніколі нельга лічыць незваротным. Мы маем прыклад – беларусізацыю 20-х гадоў. Сістэма дала – сістэма гвалтоўна зьнішчыла.

З усяго гэтага магчыма зрабіць канчатковую выснову аб неабходнасьці прыярытэту ідэі дэмакратыі перад нацыянальнай ідэяй.

Мы ніколі не памылімся, калі будзем зыходзіць з прыярытэту правоў і свабод чалавека перад правамі нацыі. Калі будзем зыходзіць з таго, што кожная асоба мае права самастойна вырашаць – да якой нацыі яна належыць. Калі будзем успрымаць нашу незалежнасьць, па-першае, як дзяржаўную, а ўжо потым як нацыянальную. Не забываймa: дзяржаве перш-наперш патрэбен грамадзянскі мір. Да таго ж, крызіс, у якім мы апынуліся, настолькі востры, што выхад зь яго трэба шукаць ужо сёньня, ужо сёньня нам трэба зьяднаць шырокія колы людзей у мэтах выхаду з крызіснага стану. Падстава для шырокай супольнасьці у нас ёсьць. Гэта імкненьне да дэмакратызацыі і, у першую чаргу, да дэманапалізацыі і дэідэалагізацыі эканомікі, да эканамічнай самастойнасьці Рэспублікі. Вядома, што дэмакратычная, плюралістычная эканоміка не пацерпіць над сабой таталітарнай палітычнай сістэмы.

АД РЭДАКЦЫІ.

Артыкулам Тацьцяны Паляковай „Чалавек, нацыя, дзяржава" мы адкрываем, магчыма, самую важную рубрыку нашай газеты. „Трыбуна" цалкам аддаецца сябрам БСДГ для абмеркаваньня актуальных праблем тэорыі і практыкі партыі, для абмеркаваньня пытаньняў яе стратэгіі і тактыкі. Пад рубрыкай „Трыбуна" мы зьбіраемся друкаваць таксама прадстаўнікоў іншых партый, беспартыйных, знаёміць чытачоў зь іх поглядам на працэсы й зьявы ў палітычным, гаспадарчым, культурным жыцьці Рэспублікі.



# Мы за Саюз. Але які?

## Прамовы сацыял-дэмакратаў

Анатоль ВЯРЦІНСКІ:

### «Я далучаю свой голас да ўсяго канструктыўнага»

Паважаны Старшыня, паважаны Вярхоўны Савет! Адказваючы на нінаандрэеўскі тэзіс, які прагучаў у некаторых выступленнях, я хацеў бы звярнуць увагу на адзін прынцыпова важны момант. Тая праблема, аб якой ідзе размова, – гэта не плён нездаровай фантазіі, не прадукт злой волі, нейкіх экстрэмістаў або сепаратыстаў. Гэта, як некаторыя дэпутаты параканаўча гаварылі, імператыў часу, суровая рэальнасць, вынік аб'ектыўнага гістарычнага працэсу. Дарэчы, пра гэта добра гаварыў нядаўна ў сваёй Нобелеўскай лекцыі Прэзідэнт Гарбачоў. Ён жа, як вы ведаеце, Генеральны сакратар партыі. Так што тут некаторыя члены партыі разыходзяцца чамусьці са сваім Генеральным сакратаром.

Сёння на ранішнім пасяджэнні Міхаіл Дзмітрыевіч Жукоўскі нагадаў нам, што ў амерыканскай школе высока цэняць сімвалы, у прыватнасці нацыянальны сцяг. Я быў у Злучаных Штатах і таксама меў магчымасць пераканацца ў гэтым не толькі ў школах, а ў іншых установах, нават на аўтазаправачных станцыях. Але ў чым тут справа? Я думаю, справа тут не ў сімвале як такім, а справа ў тым, што амерыканцы – людзі ўвогуле дзелавыя, прагматычныя і сентыментальныя. Яны цэняць тую дзяржаву, сімвалам якой з'яўляецца дадзены сцяг або дадзены герб. І пра гэта мы павінны сёння гаварыць. Аб тым, чаму і прысвечаны праект Саюзнага дагавора, – аб дзяржаве. І ў гэтай сувязі я ўношу такую прапанову. Дэпутаты Новік, Сямдзянава, я думаю, мелі рацыю, калі гаварылі аб тым, што нам трэба было спачатку прымаць Канстытуцыю ці, ва ўсякім разе, прыняць асноўныя палажэнні, а потым прымаць праект Саюзнага дагавора.

Склалася так, што Канстытуцыя па розных прычынах не гатова ці мы не гатовы па нейкіх прычынах прымаць яе да падпісання Саюзнага дагавора. Калі ўжо так склалася, я ўсё-такі лічу, што нам трэба было б у рамках вось гэтай дыскусіі, перад тым, як вырашыць пытанне аб прынцыпі праекта Саюзнага дагавора, прыняць рашэнне аб назве нашай рэспублікі. Паклапаціцца аб гэтай самай яе візітнай картцы. Што такое візітная картка, вы ведаеце. Я думаю, раней чым прайсці нам у нейкую садружнасць, у нейкі саюз, у нейкі агульны дом, усетакі трэба нам назвацца. І вось тут, я думаю, мы павінны былі б прыняць рашэнне аб тым, каб называць нашу рэспубліку Рэспубліка Беларусь. Тым больш што на пасяджэнні, у прыватнасці на апошнім пасяджэнні Канстытуцыйнай камісіі, якое вёў старшыня камісіі Мікалай Іванавіч Дземянцей, пытанне гэта каторы раз было ўзнята, і большасць членаў камісіі, а гэта і народныя дэпутаты, і юрысты, вопытныя правазнаўцы, пагадзілася на тым, што назва рэспублікі павінна гучаць так – Рэспубліка Беларусь.

Некалькі хвілін па сутнасці самога праекта. Двойчы ў праекце Дагавора гучыць слова „мова". Я згодзен. У „Основных принципах", раздзел 3, ідзе размова аб тым, што „всем гражданам гарантируется возможность изучения, использования родного языка" і гэтак далей. Я далучаюся тут да думкі дэпутата Садоўскага, што трэба больш дакладна сфармуляваць гэта палажэнне, у прыватнасці ўказаць, што не проста „изучение". Вывучэнне мовы, вы ведаеце, магчыма і без гэтых саюзных дагавораў, і без дазволу зверху. Гэта вывучэнне і родный, і нават замежнай мовы. Нікому гэта не забараняецца, у тым ліку ў нашай рэспубліцы. Таму размова ідзе аб выкарыстанні роднай мовы ва ўсіх сферах жыцця ў адпаведнасці з існуючым заканадаўствам. Гэта другі варыянт, дадатак да таго, пра што гаварыў дэпутат Садоўскі. Тут жа, у артыкуле 20, ідзе размова аб тым, каб афіцыйнай мовай Саюза Савецкіх Суверэнных Рэспублік была руская мова. У практыцы міжнародных дагавораў, наколькі я ведаю, мова не агаворваецца. Мы нядаўна мелі магчымасць прачытаць праект дагавора ЕЭС і заўважылі, што пытанні мовы абыходзяцца. Гэта дыпламатыя, у дадзеным выпадку, я думаю, было б больш дыпламатычна, карэктна абысці пытанне мовы. Тым больш што кожнаму з нас зразумела, што ў рускай мовы намнога больш пераваг быць афіцыйнай або рабочай, чым у любой другой мовы.

Далей. Нарэшце раздзела 3 „Органы Саюза". Я далучаю свой голас да ўсяго канструктыўнага, станоўчага, што тут гаварылася. Але хацеў бы звярнуць увагу на артыкул 17 „Конституционный Суд Союза ССР". Тавары́шы, няма механізма стварэння такога суда. Я не бачу, хто яго будзе ствараць, як ён будзе ствараецца.

Артыкул 19 „Прокуратура Союза ССР". У Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, вы ведаеце, сказана, што вышэйшы нагляд за дакладным аднастайным выкананнем законаў Беларускай ССР ажыццяўляецца Генеральным пракурорам Беларускай ССР, які назначаецца Вярхоўным Саветам Беларускай ССР. Я думаю, у тэксце Саюзнага дагавора павінна быць таксама вось гэта норма. І замест слоў „подотчетны Генеральному прокурору" я б усё-такі ўвёў паняцце „координация", якое фігуруе ў іншых, папярэдніх артыкулах праекта.

І апошняе. Вельмі змрочна, фатальна нават гучыць артыкул „Порядок изменения договоров". Думаю, што права вета, якое існуе ў Савеце Бяспекі ААН, у дадзеным выпадку не падыходзіць. Тым больш, што размова ідзе аб раўнапраўных рэспубліках, аб добраахвотным Саюзе. Думаю, што тут павінна быць закладзена іншая норма, якая дазваляла б некалькім рэспублікам ставіць пытанне аб зменах або дапаўненнях праекта Саюзнага дагавора. Дзякуй за ўвагу.

Яўген ГЛУШКЕВІЧ:

### «Вызывают сомнение очень многие позиции»

Уважаемые товарищи! Вопрос о Союзном договоре – это вопрос судьбы нашей Белоруссии, нашего народа. Хотел бы призвать сегодня всех участников дискуссии спокойно, без эмоций и политических амбиций обсудить документ, который нам предложен. Я считаю, что надо отбросить амбиции и защитников социалистического выбора, и архирадикалов. Судьбоносный вопрос. Сегодня нами должен управлять здравый смысл и только он. Манипуляции вокруг Союзного договора уже начались, и довольно серьезные. Настораживает поведение Председателя Верховного Совета СССР Лукьянова. Верховный Совет СССР, на мой взгляд, хочет уже торпедировать заявление „девять плюс один".

Сегодня и члены депутатского Демократического клуба, и большая часть коммунистов ясно осознают, что Договор нам нужен. Нужен он и гражданам БССР. Но устраивает ли нас концепция, которую мы рассматриваем? На мой взгляд, нет и далеко нет. В чем вопрос, что смущает? С концептуальной точки зрения вызывают сомнение очень многие позиции. Например, есть противоречия в формулировках: „закрепление советской формы правления" читаем мы в одном месте, а в другом декларируется, что республики, самостоятельно определяют свое национально-государственное устройство и систему органов власти. Это уже противоречие.

Далее. Проект носит во многом чисто декларативный характер /я поддерживаю предыдущих ораторов, которые на эту тему говорили/ и не является документом прямого действия. Мне представляется, что это позволит в будущем отдельные его положения трактовать в нужном кому-либо направлении. Например, в проекте нет механизма выхода из Союза. Если в статье 1 имеется в виду механизм выхода из Союза, который принят на Верховном Совете СССР, то мы с вами в большинстве своем согласны, что это механизм невыхода из Союза. Значит, необходимо приложение – „Механизм выхода из Союза участников этого Договора".

О гражданстве. В статье 2 говорится, что на территории Союза граждане имеют равные права, свободы и обязанности. Эта формула, мне представляется, не отвечает коренным интересам нашего белорусского народа. Мы не сможем защитить людей, и наша земля может понести большой материальный и моральный ущерб. Это нам надо иметь в виду.

Необходимо пересматривать коренным образом, на мой взгляд статью 9 „О союзных налогах". Я глубоко убежден /и много сторонников этой идеи/, что Союз не должен устанавливать налоги, должна действовать одноканальная система – финансирование общесоюзных программ, причем только долевое участие республик. Тогда мы не допустим, чтобы 34 процента союзного бюджета расходовалось сегодня на оборону. Вдумайтесь в эти цифры. Только одноканальная система.

Вызывает сомнение и предложенный механизм формирования Верховной власти Союза. Если участников Договора будет 9, это одно. А если их будет несколько десятков? Что наша маленькая Беларусь в этом конгломерате цифр, как мы будем выглядеть? Я считаю, что, если будет несколько десятков участников подписания Договора и система власти будет сформирована так, как нам предлагается, – в общем-то это проявление великодержавности, и нам здесь надо быть очень осторожными. Нельзя допустить, чтобы только один Союз занимался денежной эмиссией без участия республик. Мы просто пропадем в этом бушующем бумажном море павловских денег.

Уважаемые товарищи! У нас нет механизма защиты населения от этой бушующей бумаги. Сколько бы мы не улучшали выпуск, ни насыщали рынок товарами народного потребления, этот огромный рынок экономического пространства Союза эти товары проглотит. И наше население не будет в выигрыше. Поэтому денежная эмиссия должна решаться не только Союзом, но и республиками.

Или возьмем вопрос объявления войны. Мне представляется, что эта акция /не дай Бог, если она когда-либо случится/ – объявление – должна быть только с согласия всех республик. У нас уже есть примеры и Афганистана, и других точек.

Какие хочу внести предложения? Мне представляется, что мы должны поручить Николаю Ивановичу Дементею, нашему Председателю Верховного Совета, и рабочей группе продолжать работу над документом.

Второе. Иметь конкретные приложения, и перечень этих приложений надо обязательно обсуждать здесь.

Третье. Я считаю, что нам надо до подписания Союзного договора наполнить содержанием нашу Декларацию о суверенитете. И предлагаю, чтобы уже на этой сессии наше Правительство внесло предложение, по примеру Украины, о передаче всех предприятий союзного подчинения в собственность республики. Без разрешения этого вопроса, наверно, Союзный договор мы не можем подписать.

И последнее, мне кажется, уважаемые товарищи, что все-таки аппарат Верховного Совета и Правительство должны нам дать к проекту Союзного договора экономические выкладки, что мы выиграем, подписав его, что потеряем, то есть экономическое видение этого. Мы должны это все иметь. Без этого невозможно голосовать, а в общем-то и проанализировать. Спасибо.

■■■■■■



Алег ТРУСАЎ:

# «Я за поўную незалежнасць нашай Рэспублікі»

Паважаныя народныя дэпутаты, паважаны Прэзідыум! Хацелася б з прыемнасцю адзначыць, што нарэшце наш Вярхоўны Савет становіцца падобны на нармальны шматпартыйны парламент, дзе кожны дэпутат ці група дэпутатаў маюць права на сваю асабістую думку, якой бы арыгінальнай яна ні была. Падсумаваўшы папярэднія выступленні наконт будучага лёсу нашага краю, можна раздзяліць усе меркаванні на чатыры групы.

Да першай групы адносяцца нешматлікія прыхільнікі старога ўнітарнага Саюза, пабудаванага на аснове былой Расійскай імперыі пад „вуаллю" сталінска-брэжнеўскай ідэалогіі. Зараз, калі хутка ад старой псеўдасацыялістычнай ідэалогіі нічога не застанецца, яны згодны далучыцца да новай капіталістычнай Расіі і стаць адной з яе будучых губерній. Гэтым людзям не баліць душа за гаротны стан нашай мовы, гісторыі і культуры, якія пры такім раскладзе сіл адразу загінуць.

Зусім недалёка адышлі ад гэтых дэпутатаў прыхільнікі федэратыўнай дзяржавы, дзе беларусы будуць мець у лепшым выпадку статус нацыянальна-культурнай аўтаноміі. Пры федэратыўнай сістэме мы не палепшым, а пагоршым сваё становішча, бо застанемся такім жа танным пастаўшчыком працоўнай рабочай сілы як на расійскі, так і на замежны капіталістычны рынак. Пытанні Чарнобыля, экалогіі, вайсковыя пытанні не будуць вырашаны, бо гэта выцякае з артыкулаў 5 і 6 прапанаванага Саюзнага пагаднення, дзе ў нас забіраюць усё, што можна забраць, пакідаючы нам толькі галечу і жабрацтва. Калі ж мы захочам запярэчыць праз Савет Рэспублік, то нас хутка паставіць на месца Савет Саюза, які выбіраецца ўсім насельніцтвам СССР па выбарчых акругах з роўнай колькасцю выбаршчыкаў, а калі ўлічыць той факт, што насельніцтва толькі Масквы роўнае колькасці жыхароў Беларусі, то любы закон, прыняты Вярхоўным Саветам СССР, які будзе зневажаць наш суверэнітэт і не пройдзе праз Савет Рэспублік, лёгка будзе падтрыманы дзвюма трэцямі дэпутатаў ад Савета Саюза, дзе будуць панаваць дэпутаты ад Расійскай Федэрацыі.

Дарэчы, хто за нас вырашыў, што сталіцай новай дзяржавы павінна быць абавязкова Масква? Цікава, што ў дагаворы 1922 года ёсць пункт, які ніколькі не выконваўся. Там запісана, што з'езды Вярхоўнага Савета СССР павінны былі адбывацца па чарзе ў сталіцах усіх саюзных рэспублік. Можа, было б лепей зрабіць новую сталіцу і не абавязкова на тэрыторыі Расіі?

Таму я больш схіляюся да прыхільнікаў канфедэрацыі, якія патрабуюць даць падрабязную расшыфроўку артыкулаў 6 і 7. Для гэтага Саўмін рэспублікі павінен быў нам прадставіць усе неабходныя дакументы і статыстыку па кожнаму абзацу гэтага праекта Саюзнага пагаднення. Возьмем, напрыклад, вайсковую справу. Хто можа зараз адказаць, што лепш? Мець уласнае невялікае войска, такое як у Швецыі ці Фінляндыі, і нейкія агульнасаюзныя вайсковыя часці на прафесійнай аснове, ці пакінуць усе як ёсць, – нават не зважаючы на тое, што ўкраінцы хутка будуць служыць ужо на сваёй тэрыторыі?

І мяне здзіўляе той факт, што народны дэпутат БССР Вячаслаў Францавіч Кебіч не выказаўся па гэтаму пытанню і нават не прысутнічае зараз на сесіі.

Да чацвёртай групы, пакуль нязначнай, можна аднесці тых, хто хоча поўнай незалежнасці Беларусі. І гэта не пустыя словы. Гэта думка мільёна жыхароў Беларусі (а гэта насельніцтва цэлай Эстоніі), якія не хочуць жыць у абноўленым Саюзе. Дарэчы, у Мінску прыхільнікі Саюза ў адрозненне ад вёскі не набралі нават 50 працэнтаў ад усёй агульнай колькасці выбаршчыкаў горада. Такая ж статыстыка назіраецца ў некаторых іншых гарадах Беларусі. Людзі пачынаюць разумець, што калі Балгарыя, 500 год не меўшая незалежнасці, атрымала яе ў мінулым стагоддзі (дарэчы, з дапамогай салдат-беларусаў), то Беларусь, якая была захоплена 200 гадоў назад Расійскай імперыяй, таксама можа неўзабаве стаць вольнай дзяржавай, прычым з вельмі выгадным геапалітычным становішчам у цэнтры Еўропы. Таму я за поўную незалежнасць нашай Рэспублікі. Іншая справа, якім шляхам мы будзем ісці да яе. Магчыма, што адзін са шляхоў – гэта шлях праз канфедэрацыю з нашымі суседзямі.

А пакуль я прапаную не падпісваць ніякіх пагадненняў, пакуль Саюз не выплаціць Беларусі кампенсацыю за Чарнобыль і мы не прымем новую Канстытуцыю незалежнай Рэспублікі Беларусь. Дзякуй за ўвагу.



Яўген ЦУМАРАЎ:

# «Саюз роўных магчымы»

Паважаныя народныя дэпутаты! Як сведчыць тысячагадовая гісторыя нашага краю, дзяржаўнае ўтварэнне народа Беларусі тройчы ўваходзіла на той ці іншай аснове ў склад саюзнай дзяржавы. На жаль, ад такіх саюзаў народ Беларусі меў толькі часовыя выгоды, аднак нёс велізарныя, а часам і катастрафічныя страты. Войны і спустошэнні ў пэўнай ступені сталі вынікам саюза Полацкага княства з Кіеўскай Руссю. Трагічныя вынікі мела унія – саюз Вялікага княства Літоўскага, Жамойцкага і Рускага з Польскім каралеўствам. Хаця, здавалася б, Княства захавала ў складзе канфедэратыўнай Рэчы Паспалітай нават такія адзнакі суверэнітэту, як уласнае войска, грошы, заканадаўства, судаводства. Калі не браць пад увагу анексію беларускіх зямель Расійскай імперыяй у канцы 18 стагоддзя, пасля спусташальных войнаў і разбуральнай стыхіі, у выніку чаго загінуў амаль кожны другі жыхар Беларусі, то трэці раз Саюзны дагавор беларускім дзяржаўным утварэннем быў заключаны ў 1922 годзе. Утвораная ў 1919 годзе насуперак волі наркамнацый Іосіфа Сталіна і яго паплечнікаў, Беларуская ССР бачылася яго „творцам" як часовая з'ява на карце Еўропы. Аднак яна існавала. Межы яе тэарэтычна ахоплівалі амаль усе землі Беларусі, населеныя 12 мільёнамі жыхароў. Аднак у 1921 годзе, пасля і як следства Рыжскага мірнага дагавору, заключанага паміж РСФСР, Украінай, Польшчай без удзелу Беларусі, з бацькоўскай ласкі Расійскай камуністычнай партыі Савецкая Беларусь складалася ўсяго з 6 паветаў з тэрыторыяй 52,4 тысячы квадратных кіламетраў і насельніцтвам 1 мільён 634 тысячы чалавек. Гэта значыць, за Саюз 1922 года галасавалі на справе дэпутаты, абраныя не больш як ад 1/6 часткі насельніцтва Беларусі.

Дадамо, што і пасля ўзбуйнення ў 1924–26 гады тэрыторыя БССР займала 1/3 цяперашняй яе тэрыторыі. Не дэлегавалі, як вядома, сваіх паўнамоцных пасланцаў на заключэнне Саюзнага дагавора 1922 года і 5,5 мільёна жыхароў Заходняй Беларусі, бо жылі ў іншай дзяржаве. Іроніяй лёсу ні ў 1922 годзе, ні пазней ніводзін Вярхоўны Савет БССР не галасаваў за заключэнне Саюзнага дагавора. Такое пытанне проста не ставілася ў павестку дня Вярхоўных Саветаў аж да 1991 года.

Аднак перш чым браць ці не браць за аснову той ці іншы праект Саюзнага дагавора, належыць успомніць, якой цаной кіруючыя колы тагачаснай РСФСР і УССР (нашы саюзнікі ад 22-га года) купілі мір – цаной разбурэння Беларусі. Нельга змяніць ход гісторыі, але асудзіць тыя ці іншыя дзеянні, вынікамі якіх стаў падзел Беларусі, яе людзей, сем'яў, падзел дзяржаўнымі межамі, у выніку чаго была зруйнавана беларуская культура, знішчна мова, – гэта зрабіць трэба.

Перш чым абмяркоўваць тэкст Саюзнага дагавора, неабходна запатрабаваць ад будучых супольнікаў па саюзу (РСФСР і УССР), а таксама ад рэспублікі Польшча дэнансацыі ганебнага Рыжскага дагавора 1921 года на аснове міжнароднага вопыту і міжнароднага права. Гэта дасць падставы для вяртання Беларускай ССР велізарных каштоўнасцей матэрыяльнай і духоўнай культуры, музейных збораў, калекцый, архіваў, якія былі ў той час бязвыплатна перададзены Польшчы адпаведна з Рыжскім дагаворам. Калі некаторыя прадметы і аб'екты культурнай спадчыны Беларусі, незаконна вывезеныя з БССР у адпаведнасці з адзначаным дагаворам, страчаны, то неабходна ставіць пытанне аб грашовай кампенсацыі ў валюце, якая вельмі і вельмі патрэбна Рэспубліцы, пацярпеўшай ад чарнобыльскай катастрофы.

Прадметна па тэксту. У мяне ёсць пэўныя заўвагі. На жаль, заўвагі катэгарычнага плана. Ужо ў пачатку (а пачынаецца тэкст праекта з такой хібы: прапануецца ў прэамбуле „всестороннее развитие личности") мы забыліся, што асновай з'яўляецца чалавек. Відаць, трэба сказаць: усебаковае развіццё чалавека. І гэта не проста стылёвая памылка. Калі з такіх хібаў пачынаецца праект, то гэта, я лічу, сімвалічна. Нельга ў тэксце Саюзнага дагавора – дакумента, які мае канстытуцыйную сілу, даваць спасылку на рэферэндум 17 сакавіка гэтага года, вынікі якога не маюць сілы закона, носяць рэкамендацыйны характар. Прынцыпы, якія агавораны ў тэксце праекта, прадугледжваюць роўнасць палітычных правоў і народаў, якія жывуць на тэрыторыі рэспублік. Аднак на тэрыторыі цяперашняга СССР жывуць і нацыянальныя супольнасці. Маюцца на ўвазе немцы, курды, яўрэі. Нельга ўвабраць гэта вызначэнне ў тэрмін „народы". Такім чынам, праект Саюзнага дагавора не прадугледжвае гарантыі нацыянальным супольнасцям. Важна сказаць, што грамадзяне Саюза ССР маюць роўныя правы, свабоды і абавязкі. Але праект прапануе даць усім роўныя правы і патрабаваць роўныя абавязкі. Але якія могуць быць роўныя правы і роўныя абавязкі ў жыхара Мінскай вобласці і жыхара, дапусцім, Тбілісі ў адносінах да Беларускай ССР. Відавочна, што у тэксце праекта гэта фармулёўка не павінна прайсці.

Неабходна забяспечыць абарону і выкананне правоў чалавека, што ўваходзяць толькі ў кампетэнцыю Саюза.

У тэксце закладзена парадксальная супярэчнасць. З аднаго боку фармулюецца, што скарачаецца сфера непасрэднага дзяржаўнага кіравання эканомікай, а з другога – кіраванне эканомікай аддаецца (як бы мовіць) у кампетэнцыю рэспублікі. Такім чынам, аддаецца „шчыгрынавая скура" Рэспублікі, аддаецца тое, што хутка не стане кампетэнцыяй Рэспублікі, а стане, з пераходам на рынкавыя адносіны, кампетэнцыяй суб'ектаў эканамічнай дзейнасці.

Спрэчным з'яўляецца тэзіс аб магчымасці разгляду Канстытуцыйным Судом Саюза ўсіх спрэчных пытанняў, і пры гэтым не вызначаецца, якое права будзе дзейнічаць да вынясення вердыкту: ці саюзныя законы, ці рэспубліканскія? Спрэчным з'яўляецца прадастаўленне або вызначэнне права свабоднага выхаду рэспублік на аснове Канстытуцыі СССР. Гэтае далікатнае пытанне неабходна рэгуляваць выключна канстытуцыямі і заканадаўствам суверэнных Рэспублік, а не Саюза.

І апошняе. Па артыкулу 22, які прапануе СССР як суверэннай дзяржаве мець герб, гімн і іншыя атрыбуты дзяржаўнасці. Ганьба не за саюзны гімн, які мы сёння маем, а за лёс нашых народаў і Рэспублік, які дакладна адлюстроўвае гэты гімн. Я дазволю сабе працытаваць два радкі: „Саюз нерушимый республик свободных навеки сплотила Великая Русь". Пра які тут суверэнітэт і якое раўнапраўе Рэспублік можа ісці гаворка?

Цяпер нам прапанавана захаваць тое, што ёсць, але трэба стаць найперш самімі сабою, займець нацыянальную самавядомасць, годнасць, захаваць лепшыя рысы нацыянальнага характару, а гэта магутная сіла. Грамадзяніну Беларусі якраз не хапае здаровага нацыянальнага эгаізму і здаровага імкнення быць самім сабою і роўным сярод роўных.

Саюз роўных магчымы. Калі пачаць жыць у новым маральна-прававым вымярэнні, калі пачаць жыць на аснове новых дэмакратычных законаў аб уласнасці, грамадзянстве, дэмакратычных выбарах, аб зямлі і гэтак далей. На аснове новай Канстытуцыі, якую спачатку трэба прыняць, Саюз магчымы, але пасля таго, як будуць адноўлены адпаведныя інстытуты дзяржаўнасці Беларускай ССР. Як, дарэчы, цяпер пачынаюць рабіць першыя крокі ў гэтым накірунку і Расія, і Украіна, і шэраг іншых Рэспублік.

Сяргэй Дубавец

# Я шчэ пра БСГ, Луцкевіча і Ластоўскага

Артыкул Сяргея Дубаўца быў напісаны ў 1987 годзе – як водгук на публікацыю камуністычнага гісторыка М. Сташкевіча „Людзі з мінулага”, якую ЦК КПБ прадпісаў зьмясьціць ва ўсіх рэспубліканскіх ды абласных газетах БССР, а ЦК КПСС – у рэспубліканскіх газетах Летувы. Бальшавіцкі ідэолаг С.Паўлаў пільна сачыў, каб у газетах Беларусі не зьявілася хоць якое абвяржэньне Сташкевічага твору.

З таго часу прайшло чатыры гады. У друку зьявіліся публікацыі пра А. Луцкевіча і В. Ластоўскага, творы гэтых дзеячаў нацыянальна-вызваленчага і сацыялістычнага руху. Тым ня менш, артыкул С. Дубаўца і сёньня, здаецца, ня страціў сваёй актуальнасьці.



Антон ЛУЦКЕВІЧ.

Умовы публічнасьці, якія спакваля робяцца нормай нашага жыцьця, паступова зьмяняюць, узбагачаюць і актывізуюць грамадскую сьвядомасьць. Адсоўваюцца кулуарныя шырмы з „неагульнапрынятых” дагэтуль пазіцый і меркаваньняў, неагульнавядомых фактаў гісторыі. Ведамасную ацэнку і абясцэнку каштоўнасьцяў выцясьняе дэмакратычная і ўсебаковая пераацэнка – імкненьне ад паўпраўды да праўды.

Сёньняшні чалавек ужо не замірае перад друкаваным органам як перад адзінаверным канонам, не шукае свой „лаз” у дырэктыве. Ён разгортвае газету і часопіс з прагай пазнаёміцца з рознымі пазіцыямі кампетэнтных аўтараў, каб самастойна знайсьці, вызначыць уласнае месца ў агульным грамадскім пошуку, імя якому – перабудова.

Менавіта з такім настроем чытаўся артыкул кандыдата гістарычных навук М. Сташкевіча „Людзі з мінулага” („ЛіМ”, 12.ІУ.87), які выклікаў і згоду, і нязгоду, а таксама на сёе-тое расплюшчыў вочы. Напрыклад, на тое, што вядомыя беларускія культурныя і палітычныя дзеячы Антон Луцкевіч і Вацлаў Ластоўскі былі значнымі фігурамі ў масонстве, што сыны А. Луцкевіча ў часе акупацыі супрацоўнічалі з фашыстамі і інш. Шкада, што М. Сташкевіч не спасылаецца на крыніцы гэтых зьвестак, бо пры неад'емнай для падобнага артыкула тэндэнцыі кожны новы факт абавязкова павінен пацьвярджацца. Інакш ён проста зьліваецца з тэндэнцыяй. А ў выніку робяцца магчымымі накладкі, скажэньне гістарычнай праўды. Такое, як, скажам, сэнсавае упісаньне А. Луцкевіча, В. Ластоўскага, Я. Лёсіка ў адзін пералік з прыслужнікамі фашысцкіх акупантаў. Як вядома, пералічаныя асобы былі рэпрэсіраваныя і зьніклі з гістарычнага далягляду яшчэ да пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Іншае пытаньне – а што, каб ня зьніклі, на якім бы апынуліся баку?.. Але гэта ўсяго толькі пытаньне.

Напэўна, ня варта было на патрэбу тэндэнцыі „ўзмацняць” таксама характарыстыку Беларускай Сацыялістычнай Грамады, якую У. І. Ленін называе ў шэрагу „дробнабуржуазных нацыянальных партый леванародніцкага кірунку”. У М. Сташкевіча БСГ стала нацыяналістычнай. Тым самым дасьледчык прыпісвае партыі „рэакцыйную буржуазную ідэалогію і палітыку, якая заключаецца ў прапагандзе нацыянальнай выключнасьці і нацыянальнай перавагі, накіраваную на распальваньне нацыянальнай варожасьці і нацкоўваньне адной нацыі на другую ў інтарэсах эксплуататарскіх класаў пануючай (вялікадзяржаўнай) нацыі”. (Так тлумачыць паняцьце „нацыяналізм” маскоўскі „Словарь иностранных слов” за 1964 г.).

Думаецца, што ленінскае вызначэньне больш дакладнае, бо цалкам адпавядае тагачасным умовам, улічвае той аб'ём, „канцэнтрат” адраджэнскай працы за многія дзесяцігодзьдзі, які мусіла ўзяць на сябе першая беларуская нацыянальная партыя. Гэтае вызначэньне лагічна стасуецца з іншым ленінскім выказваньнем: „. . . у заходніх краінах нацыянальны рух – даўняе мінулае. . . „Бацькаўшчына” ў Англіі, Францыі, Германіі і г. д. ужо адсьпявала сваю песьню, адыграла сваю гістарычную ролю, г. зн. прагрэсіўнага, узнімаючага да новага эканамічнага і палітычнага жыцьця новыя масы людзей, тут нацыянальны рух даць не можа. . . На Усходзе Еўропы справа абстаіць інакш. Для ўкраінцаў і беларусаў, напрыклад, . . .няма яшчэ завяршэньня нацыянальнага руху, . . .абуджэньне мас да валоданьня роднай мовай і яе літаратурай. . . тут яшчэ адбываецца. „Бацькаўшчына” тут яшчэ не адсьпявала ўсёй сваёй гістарычнай песьні. „Абарона „бацькаўшчыны” яшчэ можа быць тут абаронай дэмакратыі, роднай мовы, палітычнай свабоды супраць прыгнятаючых нацый, супраць сярэднявечча. . .”

Варта адзначыць, што БСГ да 1906 г., БСГ „Нашай Нівы” і БСГ пасьля 1915 г. значна адрозьніваюцца паміж сабой. Але неадменнай пры гэтым заставалася для партыі яе роля лідэра нацыянальна-вызваленчага руху. І ніколі БСГ не рабілася партыяй нацыяналістычнай, бо ніколі і нідзе не заяўляла пра выключнасьць беларускай нацыі і не праводзіла гэткі тэзіс у жыцьцё. Наадварот, яна на роўным грунце фактычна аб'ядноўвала ў сваіх радах прадстаўнікоў розных нацыянальнасьцей Беларусі. Сьведчаньнем гэтаму – праграмы, друкаваныя органы, мерапрыемствы і асабовы склад партыі. Мы можам гаварыць пра хібнасьць класавай пазіцыі БСГ, але распаўсюджваць гэтую хібнасьць на пазіцыю нацыянальную няма падстаў. Разам з заслужанай крытыкай, каб ня быць аднабокімі, мы павінны прызнаць і тую безумоўную карысьць, якую гэтая вельмі неадназначная арганізацыя прынесла нашай культуры, нацыянальнаму адраджэньню на пачатку стагодзьдзя. „Кніжкі й адозвы Беларускай сацыялістычнай грамады, – пісаў З. Жылуновіч, – якая з 1906 г. абагульніла беларускі нацыянальна-сацыялістычна-культурны рух, зрабілі вялізную працу для распаўсюджваньня рэвалюцыйна-сацыялістычных ідэй сярод беларускага сялянства й, нават, сярод местачковых рамесьнікаў”.

А вось – зусім процілеглае прынятаму нашымі дасьледчыкамі меркаваньне: „Паказ БСГ як партыі, якая выражала інтарэсы буржуазіі і абшарніцтва, не вытрымоўвае крытыкі. Пярэчыць гэтаму і праграма, і дзейнасьць БСГ.

Грамада стаяла на чале беларускага нацыянальнага руху, які выражаў інтарэсы і патрэбы найшырэйшых колаў сялянства. Яна сваёй выдавецкай і арганізацыйнай дзейнасьцю палажыла вялікія заслугі ў галіне разьвіцьця беларускай культуры, а асабліва беларускай літаратуры і мовы. Таму прыпісваньне гэтых дасягненьняў беларускага нацыянальнага руху варожым сілам беларускага народу, абражае нацыянальнае пачуцьцё шырокіх працоўных мас”. Словы гэтыя пісаў беларускі дзеяч і вучоны ў Польшчы Вінцук Склубоўскі.

●

Не, справа ня ў тым, каб зараз кінуцца ўзносіць БСГ. Справа ў тым, каб сур'ёзна і аргументавана прызнаць яе неадназначнасьць. Бо заўсёды, калі тлумачыць неадназначнае адназначна, ценевы, замоўчаны бок зьявы робіцца своеасаблівым спакусным плодам, аб'ектам нездаровых „нефармальных” сенсацый. Тое самае, на жаль, назіраецца пакуль і ў дачыненьні да асобаў А. Луцкевіча і В. Ластоўскага. Асабліва моладзь „самапасам” даходзіць да замоўчаных у друку фактаў іх дзейнасьці і пачынае насупор афіцыйным канцэпцыям гісторыкаў абсалютызаваць станоўчае, забываючыся на адмоўнае, якое, у сваю чаргу, абсалютызуюць гісторыкі, забываючыся на станоўчае.

Выйсьце з гэтага зачараванага кола ёсьць. Яго называе і сам М. Сташкевіч: успомніць пра Луцкевіча і Ластоўскага ўсю праўду. І толькі пасьля гэтага даваць прадуманыя ацэнкі.

Аднак М. Сташкевіч традыцыйна абмяжоўваецца праўдай пра палітыкаў. І паводле адпаведнай выбаркі фактаў дае ім, зноў жа, традыцыйныя негатыўныя ацэнкі. Між тым апублікаванае дасьледчыкам – гэта яшчэ ня ўся праўда. У такой самай меры, як, напрыклад, ня ўся праўда пра Івана Буніна тое, што ён выступаў з тэндэнцыйнымі артыкуламі і вершамі ў газетах дзянікінскага „Освага”. „Ці быў гэты згубны для мастака крок у дадзеным выпадку сумным непаразуменьнем, вынікам зьбегу вонкавых абставінаў, проста памылкай? – пытаецца А. Твардоўскі ў прадмове да 9-томнага збору твораў І. Буніна. І працягвае: – На гэтае пытаньне даводзіцца адказаць адмоўна”.

Гэтаксама ня ўся праўда пра А. Купрына тое, што ён рэдагаваў у ген. Юдзеніча газету „Приневский край”. Палітычныя паводзіны – ня ўся праўда пра І. Севяраніна, А. Талстога, К. Бальманта. . . (М. Сташкевіч параўноўвае А. Луцкевіча і З. Гіпіус. Але пра гэта пазьней). Ці ж ня тое самае сьцьвярджае і Максім Гарэцкі ў сваёй „Гісторыі беларускае літаратуры”: „Навіна, Антон (Луцкевіч) займае першае месца ў беларускай публіцыстыцы. Віднейшы правадыр руху адраджэньня. З сваім нябожчыкам-братам Янам Луцкевічам паклаў грунт нашаніўскай парэ. Палітыка замінаець яго літэратурнай дзеяльнасьці”.

Антон Луцкевіч – аўтар аб'ёмістай публіцыстычнай і літаратуразнаўчай спадчыны. Дэбютаваў у 1906 г. артыкулам „Што будзе?” ў 1-м нумары „Нашай Долі”. Да 1939 г. (паводле даступных падлікаў) выдаў 17 асобных кніг і брашур, сярод якіх агляды новай беларускай літаратуры і нацыянальна-вызваленчага руху, беларускі правапіс, зборнік уласных лекцый, літаратурныя партрэты і інш. Луцкевічу належыць каля ста падпісаных публікацый у „Нашай Ніве” і больш за сто – у „Гомане” (за 1916 г.), самыя разнастайныя выступленьні ў Беларускіх календарах, „Маладой Беларусі”, перыёдыцы віленскай, менскай, маскоўскай, пецярбургскай, кіеўскай, львоўскай. . .

Зразумела, што вялікая колькасьць твораў яшчэ ні пра што ня сьведчыць. Прыцягальнасьць асобы Луцкевіча ў тым, што ён, бадай, адзіны чалавек, які адлюстраваў у сабе ўвесь беларускі нацыянальны дасавецкі (дарэвалюцыйны і заходнебеларускі) рух – ад 1902 да 1939 г. Часам ідэя рабілася для яго важнейшай за надзённыя інтарэсы народа, ператварылася ў самамэту. Тады і праяўляўся „нацыяналізм” Луцкевіча як унутраны самадыктат, які прыводзіў урэшце да крызісу, да трагедыі асобы. А калі гэтая асоба была яшчэ павязаная масонскімі абавязкамі – да трагедыі ўдвая. І зразумела, чаму. За плячыма Луцкевіча зь ягонай ідэяй ніколі не было нікога, хто нёс бы за тую ідэю большую адказнасьць. Зьмяняліся умовы, улады, паплечнікі, а ён заставаўся пачынальнікам, „душой беларускага адраджэньня” (Якуб Колас), зь якога спаганялі ўсе незадаволеныя наступнікі. І спаганялі часта заслужана. Бо суб'ектыўна Луцкевіч не заўсёды быў і, відаць, ня мог быць на вышыні сваёй аб'ектыўнай (як пачынальнік) адказнасьці. Дзе тут віна, а дзе бяда, – адным наскокам не адкажаш.

Заўважым, што А. Луцкевіч ніколі не дэкляраваў нацыяналізм як палітыку нацыяльна-вызваленчага руху ці як уласнае крэда. Наадварот. Ён характарызуе беларускі народ як „народ, каторы ў аснову сваёй нацыянальнай ідэалогіі палажыў прынцыпы праўдзівага дэмакратызму, прынцыпы волі, роўнасьці і брацтва ўсіх народаў”. І гэта ня проста словы. Такая пазіцыя здабывалася ў жорсткай палеміцы з чарнасоценцамі, якую Луцкевіч з калегамі вёў са старонак „Нашай Нівы”.

Не дэкляраваў А. Луцкевіч і „класавага міру”, як гэта сьцьвярджае М. Сташкевіч, апелюючы да выступленьняў публіцыста ў „Нашай Ніве” (саміх гэтых выступленьняў дасьледчык не называе і не цытуе). Між тым, ёсьць дастаткова ясныя выказваньні Луцкевіча на гэты конт. Вось хоць бы адно зь іх: „Паміж нацыянальнымі дзеячамі пачалі паяўляцца людзі, для якіх нацыянальная справа ня зьвязана са справамі дэмакратыі. Сьляпцы! Яны бачаць толькі адзін бок жыцьця народу: за вопраткай душы народнай, за нацыянальнай мовай, яны ня здольны ўгледзець самой душы. У пагоні за чыста нацыянальнымі ідэаламі яны ня бачаць нядолі, сьлёз працоўнага народу, ня чуюць крыку, што рвецца з пакутных грудзей падняволеных: хлеба!” Сюды ж дадамо сьведчаньне Цішкі Гартнага, які называе А. Луцкевіча „сьвядомым марксістам”. І дадамо дзеля таго толькі, каб зноў засьцерагчыся ад спрошчанага разуменьня асобы Луцке-

віча. Паводле сукупнасьці зьвестак мы ня можам сказаць, што ён стаяў на цьвёрдых класавых пазіцыях, але ж і прыпісаць яму прапаганду „класавага міру” ня можам таксама. Дзве ідэі – сацыяльнага і нацыянальнага вызваленьня народа – зьмяшчаліся у гэтай асобе. То злучаліся ў адно, то разыходзіліся. У залежнасьці ад абставінаў.

У залежнасьці ад абставінаў. Гэткая пасылка таксама ўзводзіцца дасьледчыкамі ў прынцып паводзінаў Луцкевіча. То русафіл, то германафіл – у часе нямецкай (кайзераўскай) акупацыі, то паланафіл – пад акупацыяй польскай. Ганебнае хамелеонства. Асабліва, калі глядзець з нашых, 80-х гадоў, калі гісторыя ўжо адбылася. А тады? Расія набліжалася да рэвалюцыі, Германія была ахоплена рабочым рухам, які прывёў да стварэньня Савецкай рэспублікі ў Баварыі. У Польшчы запаноўваў Пілсудскі – былы сацыяліст, ураджэнец Беларусі, добры знаёмы, які абяцае „залатыя горы”... У кругаверці падзей будучыня губляецца, не вымалёўваецца. Але заўважым у паводзінах А. Луцкевіча адну, нязьменную дэталь. Ён заўсёды патрабуе беларускай мовы, беларускай школы і беларускага прадстаўніцтва. Незалежна ад таго, каму ён „служыць”. Незалежна ад абставінаў.

●

Так, паводзіны А. Луцкевіча вымагаюць глыбокага, нават глыбіннага аналізу і асэнсаваньня ў неадрыўнасьці ад свайго часу. З усіх палітычных сіл на Беларусі ніводная ня мела на мэце абарону нацыянальных інтарэсаў беларускага народа, уздым ягонай нацыянальнай сьвядомасьці, ягонай мовы, гісторыі, асьветы. (Нагадаю: „Бацькаўшчына” тут яшчэ не адсьпявала ўсёй сваёй гістарычнай песьні”). З усіх сіл толькі ён, Луцкевіч, на вастрыі сваёй палітычнай сілы меўся абараніць названыя інтарэсы. І абараняў. Ды толькі сіла ягоная так і ня стала палітычнай рэальнасьцю. Не хапіла сілы.

Гэта потым будуць Кампартыя Беларусі, БССР і палітыка беларусізацыі, якую А. Луцкевіч будзе вітаць, потым будзе асэнсаваньне абставінаў і ўласных паводзінаў, асэнсаваньне гісторыі. А пакуль...

Не, у адрозненьне ад названых вышэй рускіх пісьменьнікаў, Луцкевіч не прыняў Кастрычніцкую рэвалюцыю ў штыхі. Вось хоць бы з пазьнейшай працы „Янка Купала як Прарок Адраджэньня” (Вільня, 1932). Ён нагадвае пра Вялікую Рэвалюцыю ў Расіі, прызнае і падтрымлівае Савецкую уладу. Ніводнага непаважнага слова ў адрас рэвалюцыі, Савецкай улады, Леніна, сацыялізму, якое было б напісана А.Луцкевічам, у даступных крыніцах няма. Не знайшоў я такога слова і сярод цытат у „выкрывальніцкіх” працах 30-х гадоў, у сучаснай літаратуры.

Паказальна, што ў Савецкай Беларусі да 1929 г. пра Антона Луцкевіча пісалі толькі прыхільна. А ў 29-м у Менску пачаліся першыя рэпрэсіі, якія прывялі да штучнай палярызацыі нацыянальных дзеячоў. У выніку – вядомыя „міжсобіцы”, арышты. А.Луцкевіч у Вільні выступіў супраць гэтых рэпрэсій, супраць культу асобы Сталіна. І адразу ж пасьля гэтага „адданы беларускай справе дзеяч”, „заслужаны дзеяч... адраджэньня”, як яго называлі ў савецкія друку, робіцца героем памфлетаў.

Знаходзіцца і апраўданьне гэткай рэзкай зьмене адносінаў. Маўляў, на судовым працэсе 1928 г. А. Луцкевіч адрокся ад падсуднай Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады. Гэта больш чым праз год (!) высьвятляецца, што ён – здраднік. Між тым у газетах (савецкіх і заходнебеларускіх), якія аператыўна і падрабязна асьвятлялі працэс, сьведчаньняў гэтай здрады няма.

„Прыхільнасьць” А. Луцкевіча да Савецкай улады (бяру слова ў лапкі, бо яно ў поўнай меры не перадае ўсёй неадназначнасьці адносінаў) прафесар У.Калесьнік тлумачыць „вёрткім палітычным прагматызмам”. Магчыма, не бяз гэтага. Але чым тады растлумачыць тое, што ў прамове А. Луцкевіча на сходзе ў гонар уступленьня Чырвонай Арміі ў Вільню ў 1939 г. няма ніводнага ліслівага слова, якіх з коптурам у іншых прамоўцаў?

Нарэшце, чаму мы зь лёгкасьцю ігнаруем ацэнкі, якія далі Луцкевічу Гартны, Гарэцкі і Колас? Магчыма, яны памыляліся. Але памылкі класікаў – вялікая навука, якую трэба засвоіць, каб ня стаць аднабокімі ў высновах, беспадстаўна катэгарычнымі. Каб не шукаць манаполію на праўду у апошняй інстанцыі. Любая канчаткова ацэненая гісторыя, у якой нехта расставіў крыжы і лакіраваныя фігуркі, – мёртвая гісторыя. На ёй ня спыніцца цікаўнае вока чалавека, асабліва маладога.

Праўда, на асобе А. Луцкевіча нашым дасьледчыкам ніяк не ўдаецца паставіць крыж, няхай нават і заслужаны. Не зьмяшчаецца Луцкевіч пад крыжам. Сучасныя выданьні спадчыны Купалы, Коласа, Палуяна, Багдановіча, Гарэцкага, Гартнага і іншых – стракатыя ад купюраў, ад тых (...), за якімі вельмі часта стаіць адное толькі прозьвішча – Луцкевіч. У працах дасьледчыкаў зьяўляюцца своасаблівыя „паветраныя ямы”. Напрыклад, У. Калесьнік, які абраў цалкам адмоўную пазіцыю ў дачыненьні да А. Луцкевіча, вымушаны пісаць: „Твор гэты („Вершы аб Вільні” Ул. Жылкі. – С. Д.) быў апублікаваны ў „Студэнцкай думцы” ў 1925 годзе, як вялікая цытата ў літаратурным артыкуле пра Вільню і яе вобраз у беларускай паэзіі. Відавочна, без такой маскіроўкі верш не прайшоў бы тагачаснай польскай цэнзуры...” Думаецца, што дасьледчык несправядліва „забыўся” ўказаць аўтара згаданага артыкула – Антона Луцкевіча.

Намёкамі гавораць сучасныя аўтары пра самы плённы перыяд у творчасьці Максіма Багдановіча, калі паэт наведаў Вільню і Ракуцёўшчыну, куды да свайго дзядзькі запрасілі яго браты Луцкевічы. А ў Вільні спадарожнікам паэта быў В. Ластоўскі, які, дарэчы, пакінуў цікавыя ўспаміны. Чытае іх дасьледчык, а выкарыстаць ня можа. Алег Лойка адважыўся на такую спробу: у біяграфічным рамане пра Янку Купалу „Як агонь, як вада” зьмяніў прозьвішчы Луцкевіча і Ластоўскага на Лапкевіча і Ласоўскага. Тым самым набыў права пісаць пра іх, цытаваць іхнія творы. Маўляў, і дасьведчаны зразумее, і рэдактура прапусьціць.

Непрымальныя, але і зразумелыя такія паводзіны дасьледчыкаў. Можна сабе ўявіць, зь якой „крывёй” выходзілі ў даперабудоўскі час падобныя кнігі. І Луцкевіч, і Ластоўскі – персоны не рэабілітаваныя. Мы яшчэ вельмі мала ведаем пра іх. А дзеля таго, каб ведаць болей, каб супольна ўсё ўзважыць і ацаніць, трэба калі ня зьняць тыя колішнія крыжы, дык хоць зазірнуць пад іх. Што там Вацлаў Ластоўскі?..

Не абыходзяцца без Ластоўскага сучасныя мовазнаўцы, якія сьціпла спасылаюцца на ягоны часопіс „Крывіч”, спакусьліва глядзіць навуковец і на „Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік” (Коўна, 1924) Ластоўскага. Або – на унікальную „Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі (Коўна, 1926) – грунтоўную працу, аналагаў якой у сучаснай навуцы няма. Магчыма, некалі значным адкрыццём стане проза Власта (псеўданім Ластоўскага), якую М. Багдановіч ставіў у прыклад, як трэба пісаць. Аповесьць Ластоўскага „Лабірынты” – тое зьвяно, якога нестае пакуль у генетычным ланцугу беларускай прыгодніцкай літаратуры паміж Баршчэўскім і Караткевічам.

Словам, нам ёсьць што успомніць, і не толькі благое. Час патрабуе проціпаставіць выбарачнаму бяспамяцтву пазіцыю, якую ў дачыненьні А. Луцкевіча, В. Ластоўскага і некаторых іншых беларускіх дзеячоў сфармуляваў яшчэ М. Багдановіч у сваёй брашуры „Білоруське відродженне”: „Характеристика каждого з них труда річ, але не згадати про них не можа. Аджеж саме завдяки їх непохистности й саможертві білоруський рух, який найшов собі тепер міцну підпору в широких кадрах народньоі інтелігенції, видержав увесь тягар перших років свого істнування, придбав своє нинішне ідейне обличе й невеликими, але глибокими, нестертими буквами вирізав своє імя на таблицях світового поступу”.

●

На прыканцы заўважу, што ніяк не прэтэндую на аб'ектыўнасьць уласных меркаваньняў. Вельмі многае трэба будзе яшчэ раскрыць, разгадаць, перадумаць. І прынцыповае пытаньне – дажылі б Луцкевіч і Ластоўскі да вайны, на чыім баку апынуліся б? – застаецца пытаньнем. Вельмі складаным пытаньнем выбару, якога перад З. Гіпіус, думаю, не стаяла.

# СУСТРЭЧЫ

●

**Менск наведалі супрацоўнікі Федэральнага інстытута дасьледаваньня краін Усходняй Еўропы і міжнародных праблем Хайнц Тымерман і Эбэхард Шнайдэр.**

**29 чэрвеня нямецкіх гасьцей прынялі сябры Выканкаму Цэнтральнай Рады БСДГ Анатоль Вярцінскі і Анатоль Гурыновіч, а таксама старшыня Цэнтральнай Кантрольна-Рэвізійнай Камісіі БСДГ Міхась Чарняўскі.**

**Адбылася гутарка аб сучасным палітычным ды эканамічным становішчы Беларусі і Савецкага Саюза, аб працэсах, што адбываюцца ў краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.**

●

**8 ліпеня адбылася сустрэча старшыні Цэнтральнай Рады БСДГ Міхася Ткачова, намесьніка старшыні Цэнтральнай Рады БСДГ Мікалая Крыжаноўскага, сяброў Выканкаму Цэнтральнай Рады Анатоля Вярцінскага, Анатоля Гурыновіча, Мікалая Кійкі, сяброў Цэнтральнай Рады Міколы Гілевіча (Гіля), Анатоля Сідарэвіча і старшыні рады Першамайскай філіі БСДГ у г. Менску Віталя Скалабана з амерыканскімі вучонымі і журналістамі.**

**Супрацоўнікі дасьледчыцкай службы Кангрэсу Злучаных Штатаў Амерыкі Джордж Холідэй і Уільям Купер, прафесар універсітэту штата Арканзас Кен Роджэрс ды іх калегі цікавіліся стаўленьнем Грамады да праекту новага Саюзнага Дагавору, да магчымай дапамогі Савецкаму Саюзу з боку „вялікай сямёркі”, іншымі пытаньнямі.**

**Госьці падзяліліся сваімі ўражаньнямі ад наведаньня Расіі і Беларусі, а таксама выказалі меркаваньні аб магчымай палітыцы ЗША ў дачыненьні да цяперашніх саюзных Рэспублік.**

# ПАДРЫХТАВАНА ДА ДРУКУ

**У творчай спадчыне Антона Луцкевіча асаблівае месца займае яго невялікая кніжка „За дваццаць пяць гадоў. Успаміны аб працы першых беларускіх арганізацыяў Беларуская Рэвалюцыйная Грамада – Беларуская Сацыялістычная Грамада”.**

**Незадаволеныя палітыкай польскага ўраду, спакушаныя посьпехамі нэпу і ўяўнымі дасягненьнямі гэтак званай беларусізацыі ў ССРБ, вядомыя дзеячы беларускай сацыял-дэмакратыі Браніслаў Тарашкевіч ды Сымон Рак-Міхайлоўскі пайшлі на супрацоўніцтва з Кампартыяй Заходняй Беларусі. Яны, аўтарытэтныя ў народзе людзі, паслы на Сойм Польскай Рэспублікі, патрэбныя былі камуністам для легальнага прыкрыцьця дзейнасьці КПЗБ. Залучыўшы ў свае шэрагі Тарашкевіча і Рак-Міхайлоўскага, камуністы здолелі стварыць Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду (БСРГ).**

**Бачачы, што народны гнеў у сваіх інтарэсах карыстае КПЗБ – партыя, цалкам залежная ад Масквы, А. Луцкевіч, аднак, супрацоўнічаў з БСРГ як журналіст, за што ў кастрычніку 1927 г. быў арыштаваны. Седзячы ў турме на Лукішках (Вільня), ён пачаў пісаць успаміны.**

**Прасочваючы шлях беларускага сацыялістычнага руху ад пачатку стагодзьдзя, А. Луцкевіч лічыў, што галоўным яго дасягненьнем было абвяшчэньне 9 сакавіка 1918 г. Беларускай Народнай Рэспублікі, а 25 сакавіка 1918 г. – яе незалежнасьці. Пасьля гэтага ідэю беларускай дзяржаўнасьці ўжо не маглі ігнараваць яе праціўнікі – бальшавікі.**

**Праз 63 гады пасьля таго, як кніжка А. Луцкевіча ўпершыню ўбачыла сьвет у Вільні, выдавецтва „Беларуская Савецкая Энцыклапедыя” падрыхтавала яе паўторнае выданьне. Трэба думаць, успаміны будуць карысныя таму, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі і беларускага сацыялістычнага руху.**



# КРАЁВАЕ СТАНОВІШЧА

Антон ЛУЦКЕВІЧ

...Усе тутэйшыя нацыі зьвязаны ня толькі тым, што на аднэй зямлі жывуць: нас злучае ў вадну вялікую сям'ю, у вадно брацтва наша доля-нядоля, нашы беды і жаданьня, наша супольная палітычная думка. З тэй думкі творыцца краёвая праграма, павэдлуг каторай усе мы павінны змагацца за шчасьце краю.

Ня ўсе прыстаюць на гэта. У кожнай нацыі ёсьць людзі, каторым і цяпер жывецца добра, каторыя патрапілі накінуць уласьць сваю на шыю слабейшых, чым яны, і жывуць іх працай крывавай... У іх свая асобная мэта. Таксама ёсьць людзі, каторыя ня хочуць працаваць дзеля нашай роднай старонкі затым, што для іх яна – чужая: адны працуюць дзеля Польшчы, другія шукаюць бацькаўшчыны ў Палестыне, трэціх сэрца цягне ў Маскву. Тут – у нас – яны быццам госьці дачасныя. Яны хаваюць свае сілы, сваю здольнасьць дзеля іншай зямелькі, каторую лічаць сваей бацькаўшчынай. (...) Для іх краёвая ідэя ня мае ніякай цаны.

Найгоршы вораг краёвай ідэі – гэта нацыяналізм. Нацыяналізм – гэта хворае пачуцьцё сваей нацыянальнай асобнасьці. Нацыяналісты – усё роўна, якой нацыі – апрача сваіх, сваёй нацыі сьвету ня бачаць. Для іх няма нічога важнага, цэннага, калі гэта стварыў чужы народ. У іх вачах вялікія, сусьветныя ідэалы адыходзяць на другі план. Жадаючы волі для свайго народу, нацыяналісты ня бачаць, што іншыя нацыі гібеюць у няволі, ды самі гатовы ціснуць і зьневажаць слабейшую нацыю, калі маюць над ею уласьць. Зьдзек і ўціск, кажуць яны, благія тады калі яго пераносіць іх народ; калі ж іншы – гэта іх не цікавіць. Нацыяналісты гавораць павэдлуг асноў этыкі людаедаў: „Калі вораг забіў і зьеў маю жонку – гэта дрэнна, калі-ж я гэтаксама зраблю з жонкай ворага, то будзе добра”. Ня дзіва, што і ў нашым краю людзі, каторых захапіў нацыяналістычны шал, ня могуць жыць у згодзе, ня могуць згаварыцца аб супольнай працы дзеля супольнай карысьці усяе зямлі нашай: тутака больш, чым дзе-небудзь, усялякіх нацыянальных спорак, і ў ненармальных палітычных варунках яны вырастаюць у вялікі пажар нацыянальнага змаганьня з усімі. Нацыяналісты асьвячаюць гэтае змаганьне, ставяць яго сваёй мэтай. Сьляпыя: яны ня могуць ці ня хочуць зразумець, што карабель, плывучы ў буру па бязьмерным акіяне, напэўне пайшоў бы на дно, калі-б кожны матрос думаў аб сабе, забыўшы аб караблі!

Нацыяналізм дужа пашыраны ў нас. Ён пануе ў польскім грамадзянстве, захапіў багата літвіноў і жыдоў, агарнуў бязмала ўсіх тутэйшых расейцаў, асабліва перарobленых зь беларусаў. Не сягоньня, дык заўтра можна спадзявацца, што гэта хвароба не абміне і беларусаў, несучы з сабой ненавісьць да іншых нацый, каторай дагэтуль у нас не было і няма, кіруючы сілы нашага народу не на творчаскую дарогу, а на дарогу змаганьня з нашымі братамі, зьвязанымі з намі гісторыяй краю і супольнай нядоляй. Ад яе павінны мы бараніць наш народ, пакуль ня позна, пакуль яна ня ўелася ў душу яго. І ў гэтым змаганьні з нацыяналізмам нам пададуць руку ўсе шчырыя дэмакраты іншых нацый, каторым і мы павінны, чым мага, памагаць у іх рабоце. Мы павінны цьвёрда памятаць, што ў дэмакратаў усіх нацый ёсьць адна супольная дарога, адны ідэалы – агульналюдзкія ідэалы волі, роўнасьці і брацтва, каторыя абымаюць і ўсе нашы, беларускія патрэбы, нясуць і нам вызваленьне. Шчыры дэмакратызм, ваюючы за спаўненьне гэтых ідэалаў, роўна бароніць ад зьдзеку беларуса і літвіна, паляка і жыда.

Дэмакратызм – гэта жаданьне вызваляць з палітычнага і эканамічнага ўціску тую вялікую, многаміл ьённую грамаду

Заканчэнне на стар.8

## Да ведама, грамадзян, сяброў і суполак БСДГ

Выйшла з друку брашура „Матэрыялы Устаноўчага З'езду Беларускай Сацыял - Дэмакратычнай Грамады". У ёй на беларускай і рускай мовах надрукаваны тэксты Праграмнай заявы і Статута БСДГ, а таксама спісы сяброў Цэнтральнай Рады, Цэнтральнай Кантрольна-Рэвізійнай Камісіі Грамады.

Кошт брашуры – 3 рублі. Грошы, атрыманыя ад яе продажу, ідуць у фонд газеты „Грамада".

З заяўкамі звяртацца па тэлефоне 20-96-29 (з 9 да 18 гадзін), 31-29-26 (пасьля 18 гадзін) або на адрас: 220100, Мінск-100, абанементная скрынка №372.

---

Сяброўскія складкі і ахвяраваньні на карысьць БСДГ просім накіроўваць на рахунак Цэнтральнай Рады Грамады 700810 у Заводскім адзяленьні дзяржаўнага камерцыйнага Прамыслова-будаўнічага банку (па-руску ГК ПСБ) г. Мінска МФО 400086.



Заслаўе, зямля Рагнеды

## КРАЁВАЕ СТАНОВІШЧА

Заканчэнне. Пачатак на стар. 7

народу, што працай сваёй корміць усенькі сьвет, а за гэта сам падчас (жыве) галодна, што сваімі рукамі будуе фундамэнт высокай культуры, а сам жыве ў цемнаце, што бароніць дзяржавы ад ворагаў, а сам гібее ў бяспраўі. Мы, беларусы, гэта йшчэ бадай чыста мужыцкі народ, і няма ў нас дагэтуль станаў і клясаў, каторым бы жылося вольна. Мы, беларусы, гэта прыродныя дэмакраты. І затым-та ў той мамэнт, калі ідэалы дэмакратыі заваюю́ць сабе пачэснае мейсца ў жыцьці, настане мінута вызваленьня і беларускага народу. З дэмакратамі ўсіх нацый мы можам і павінны ісьці поруч, нага ў нагу: толькі між імі знойдзем мы таварышоў у змаганьні за нашу волю, за наша шчасьце. На грунце зьяднаньня дэмакратычных элемэнтаў усіх тутэйшых нацый здалеем мы стварыць вялікую сілу, здалеем вясьці выразную палітычную лінію, карысную для ўсяго краю, усіх жыхароў яго.

Гэтак вырысовываецца палітычнае становішча беларусаў у нашых краёвых справах: становішча дэмакратычна-краёвае. Яно – і толькі яно – дае нам можнасьць абмінуць ці хаця-бы зьменшыць, колькі можна, тыя нацыянальныя сваркі, каторыя штораз болей разьвіваюцца ў нашй старонцы, марнуючы бескарысна падчас найлепшыя сілы народу. Яно пазваляе нам усю творчаскую сілу збудзіўшагася ад векавога сну народу накіраваць да спакойнай культурна-нацыянальнай работы, да працы дзеля ўзмацаваньня нашага грамадзянства, да вызваленьня народа з эканамічных путаў, да ўсестароньняга адраджэньня яго.

Вільня, 1/IV 1914 г.

Фрагмент друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў Цэнтральнай бібліятэцы Літоўскай Акадэміі Навук ф.21, спр. 334, арк. 12–18),

Публікацыя Анатоля СІДАРЭВІЧА.

# Да чытачоў

Перад вамі, паважаныя чытачы, першы нумар цэнтральнага друкаванага органа Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады.

У гісторыі беларускага сацыялістычнага руху было ці мала газет. „Свабода", „Наша Доля", „Наша Ніва", „Грамада", „Беларуская Ніва", „Наперад"... Як бачыце, назвы адных газет пераняслі новыя выданьні, падчас далёкія ад ідэалаў сацыял-дэмакратыі, назвы іншых – яшчэ „вакантныя". Дэлегаты Ўстаноўчага зьезду БСДГ вырашылі, што партыйная газета будзе мець назву „Грамада", бо гэтак называўся орган Беларускай Сацыялістычнай Грамады, рэдагаваны выдатным беларускім грамадскім і палітычным дзеячам, вучоным Аркадзем Смолічам.

Мы аднаўляем дату выданьня газеты, стылізуем загаловачнае клішэ 1917 года. І гэта ня проста жэст. Беларускія сацыялісты былі ў той час адзіным палітычным згуртаваньнем, якое ўзяло на сябе цяжкі абавязак дапамагчы народу выйсьці на шлях свабоды, адрадзіць культуру, нацыянальную годнасьць. Ці не такія задачы ў беларускіх сацыял-дэмакратаў і сёньня?

Нашы апаненты могуць колькі хочаш практыкавацца ў нападах на ідэі сацыяльнай дэмакратыі, называць сацыял-дэмакратыю „запасным акопам бальшавізму", але калі яны сумленныя людзі, дык мусяць прызнаць, што і Беларуская Народная Рэспубліка, і БССР, дзякуючы якім у народзе выпрацавалася думка хоць аб нейкай беларускай дзяржаўнасьці – вынік працы беларускіх сацыялістаў. Акт 25 сакавіка 1918 года ініцыявалі і прынялі сацыялісты. Не было тады ў Радзе Рэспублікі беларускіх хадэкаў, іншых правых. Згрупаваўшыся ў Менскім беларускім прадстаўніцтве /быццам Рада не была беларускім прадстаўніцтвам/, яны, як тыя заўзятары на стадыёне, сачылі, як разгортваецца змаганьне за Беларусь, за дзяржаўнасьць.

Адраджаючы сацыял-дэмакратычную газету, мы будзем працягваць традыцыі нашых ідэйных папярэднікаў – рабіць усё дзеля еднасьці дэмакратычных партый і рухаў Беларусі, якім дарагія ідэалы незалежнага быту Рэспублікі. Рэспублікі, у якой шануюцца правы чалавека і нацыянальных групаў, у якой разнастайнасьць формаў уласнасьці спалучаецца са шматпартыйнасьцю, у якой законы адлюстроўваюць не волю класа, не волю партыі, а волю грамадства, Рэспублікі, у якой няма „палітычнага авангарду", „кіруючай і накіроўваючай сілы".

Дзеля гэтага адзінства газета, працягваючы сваіх папярэднікаў, будзе выяўляць талерантнасьць да ўсякага іншадумства. Яна будзе ня толькі трыбунаю сацыял-дэмакратаў – яна заўсёды зьмесьціць артыкулы, нататкі тых людзей, якія, не падзяляючы сацыял-дэмактарычныя погляды, маюць што сказаць аб развіцьці палітычнай сітуацыі ў Рэспубліцы. Працягваючы традыцыі папярэднікаў, газета будзе друкаваць гожыя вершы й навелы, адгукацца на падзеі ў культурным жыцьці Беларусі. Адпаведным чынам яна будзе рэагаваць на праявы антыкультуры. Газета рэзервуе права крытыкаваць усіх, хто раздзьмухвае міжкласавую, міжнацыянальную і міжканфесійную варажнечу, тых, хто грэбліва ставіцца да чалавечых і нацыянальных правоў, тых хто прапагандуе таталітарызм, гвалт і прымус, кліча да дыктатуры, гегемоніі класа ці партыі, стварае культ „моцнай асобы" і „моцнай рукі".

Сітуацыя ў Рэспубліцы такая, што КПБ – КПСС манапалізавала адзінае газетна-часопіснае выдавецтва ў Менску. Гэтая партыя ўсё яшчэ трымае пад сваім кантролем дзяржаўныя друкарні, фонды паперы. Усё гэта стварае цяжкасьці ў справе выданьня сацыял-дэмактарычнай газеты. Справа ўскладняецца й тым, што БСДГ – партыя маладая, бедная. І тым ня менш мы будзем старацца, каб „Грамада" выходзіла спрачатку раз на месяц, потым раз на два тыдні і нарэшце штотыдзень. Наша мэта – наладзіць выпуск сацыял-дэмакратычнага тыднёвіка на 16 старонках фармату „ЛіМа".

Першы нумар газеты перад вамі, дарагія чытачы. Рэдакцыя заклікае да супрацоўніцтва людзей розных прафесій і рознага веку. Яна будзе ўдзячная за маральную і матэрыяльную падтрымку, за добрую параду, за ўвагу і просіць на разе не судзіць строга першы нумар: як ведама, першы блін заўжды камаваты.

Чытачы, мусіць, зьвярнулі ўвагу на тое, што не захаваны, як то кажуць, моўны рэжым: адны матэрыялы надрукаваныя паводле граматыкі Тарашкевіча, другія – паводле савецкага („галадзедаўскага") правапісу. Нам могуць закінуць, што мы не пунктуальныя ў карыстанні тарашкевічаўскай арфаграфіяй. Павінны зазначыць: сярод філолагаў і журналістаў цяпер такая ж неразьбярыха, як і сярод эканамістаў: кожны прапануе свой варыянт, свой шлях. Мы ж прытрымліваемся таго прынцыпу, што ад старое граматыкі трэба ўзяць на разе правапіс мяккага знаку ды „не-ня", „без-бяз". Спрэчкі пра тое, як будзе правільна – „філалогія", „філёлёгія" ці „філялогія", – нагадваюць спрэчкі „рыначнікаў", „сацыялістычных рыначнікаў" і прыхільнікаў цэнтралізаванага кіраваньня й планаваньня. Мала таго, што тут назіраецца процістаяньне „ўсходняй" і „заходняй" арыентацый, дык і сярод „заходнікаў" няма аднадумства („філёлёгія" і „філялёгія"). Да таго ж не забудзьма, што паводле нормаў „галадзедаўскай" граматыкі створана высокая літаратура – Кузьма Чорны, Іван Мележ, Янка Брыль, Міхась Стральцоў... Таму мы імкнемся памірыць стары і новы правапіс напісаньнем мяккага знаку і „е" – „я". Акрамя таго, мы даем права самім аўтарам вырашаць, якая граматыка для іх лепшая. Што датычыць матэрыялаў, напісаных да рэформы 1933 года, будзем друкаваць іх „паводле Тарашкевіча".

Застаецца паінфармаваць, што загаловачнае клішчэ газеты зрабіў заслужаны работнік культуры, сябар Цэнтральнай Рады Грамады Эдуард Агуновіч, што ў нумары выкарыстаныя фотаздымкі А. Клешчука ды М. Урублеўскага.

## Прачыталі...

У „Известиях" за 24 чэрвеня 1991 года М.Шыманскі на ўвесь Саюз і сьвет паведаміў, што ў парламенце Беларусі створана „группа /фракция/ друзей белорусской социал-демократической громады".

Міжволі згадваеш, як адзін перакладчык вельмі паспадзяваўся на веданьне беларускае мовы. „ У канюшыне стракаталі конікі" ён пераклаў як „В конюшне ржали лошадки". Гэтак і ў М. Шыманскага: сябры сталі друзьями. Што ж ты зробіш, калі беларусы ня любяць слова „член" і замест яго ўжываюць „сябар", „сябра". Яно і праўда: у адной партыі, у адной кампаніі звычайна бываюць толькі сябры.

Што ні кажы, а моўны лікбез патрэбны і для журналістаў. Не толькі для „известинцев" – для белтаўскіх таксама. Гэтае агенцтва пры Савеце Міністраў БССР на старонках сваёй газеты „7 дней" таксама паведаміла пра „друзей" БСДГ.

●

У Магілёўскай вобласьці раздаліся стрэлы. Адны салдаты Савецкай Арміі стралялі ў другіх, а потым са зброяй у руках уцяклі з воінскай часткі. Газеты адпавядалі пра тое, як іх шукалі.

Недзе ў тыя ж дні дэпутат Ігар Гермянчук расказваў на сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі, як камандаваньне адной дывізіі пусьціла баявую тэхніку на гароды жыхароў пасёлка Калодзіша Менскага раёну.

На пачатку ліпеня газета „Звязда" паведаміла, што камандзіраваныя з Падмаскоўя салдаты сярод ночы забраліся ў гандлёвы павільён, каб разжыцца на прадукты харчаваньня. У Жыткавічах салдат (мабыць, зь мясцовага гарнізону) за ноч пабываў у двух магазінах. У Гомелі салдат з Івана–Франкоўскай вобласьці залез ужо не ў прадуктовую, а ў камісійную краму...

Армія ўвачавідкі ператвараецца ў крымінагенную зону, у фактар нестабільнасьці.

ГРАМАДА

Цэнтральны друкаваны орган Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады.

Адрас для карэспандэнцый і лістоў: 220103, Мінск-103, абанементная скрынка 117.

Думкі аўтараў газеты не абавязкова супадаюць зь меркаваньнем рэдакцыі. Аўтары адказваюць самі за дакладнасьць фактаў, лічбаў, цытат, прозьвішчаў, імёнаў.

Галоўны рэдактар А. СІДАРЭВІЧ.

Здадзена ў набор 19 ліпеня 1991 г. Падпісана да друку 29 ліпеня 1991 г.

Наклад 999 асобнікаў. Аршанская ўзбуйненая друкарня.